Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 45 (4794) 14 лістапада 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 75-годдзем калектыў Нацыянальнага мастацкага музея. «Дзякуючы вашай добрасумленнай працы каштоўныя здабыткі пастаянна павялічваюцца, каб, абапіраючыся на вопыт папярэднікаў, наша культура магла плённа развівацца, а Беларусь у галіне сусветнага мастацтва набывала ўсё большую вядомасць», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Аляксандру Пахмутаву з днём нараджэння. Прэзідэнт падкрэсліў, што ў Беларусі Аляксандра Пахмутава карыстаецца заслужаным прызнаннем і павагай як выдатны кампазітар і добры сябар краіны.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў з 60-годдзем галоўнага рэдактара «Літаратурной газеты» Юрыя Палякова. Прэзідэнт выказаў упэўненасць, што шматгранная дзейнасць Юрыя Палякова і ў далейшым будзе садзейнічаць умацаванню беларуска-расійскага супрацоўніцтва.

✔ Экспертна-медыйны форум «Спазнаючы Саюзную дзяржаву: ад Брэста да Уладзівастока» адбыўся на гэтым тыдні ў Маскве. У ім узяло ўдзел больш як 60 беларускіх і расійскіх экспертаў і журналістаў.

✔ Фестываль праваслаўнай культуры «Кладезь» ладзяць у Полацку з 9 па 16 лістапада. Прапануюцца канцэрты і кіно, сустрэчы з пісьменнікамі, псіхолагамі, педагогамі, святарамі. На выстаўцы-кірмашы арганізаваны паказы лялечнага тэатра «Батлейка» і культурна-гістарычная экспазіцыя «Скрыпторый», дзе прадстаўлены ручныя вырабы, зробленыя ў манастырскіх майстэрнях.

✔ Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва пачынае супрацоўніцтва з культурным цэнтрам «Дусяцкая мастацкая галерэя» Зарасайскага раёна Літвы. Чакаецца, што першымі мерапрыемствамі стануць выстаўкі віцебскіх мастакоў у Дусяцкай мастацкай галерэі, а літоўскіх — у Віцебскім цэнтры сучаснага мастацтва.

✔ Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры абвясціў дзіцячы конкурс «Калядныя замалёўкі». Да ўдзелу прымаюцца малюнкі і вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на калядную тэматыку. Работы можна прадставіць да 10 снежня.

✔ 24 — 30 лістапада пройдуць фінальныя мерапрыемствы Трэцяга рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія». На ўзнагароды прэтэндуе 21 спектакль. А ўвогуле на конкурс было пададзена 37 заявак ад 28 тэатраў.

✔ У сталіцы стартаваў новы сумесны праект партала TUT.BY і Белдзяржуніверсітэта «МоваTUT», скіраваны на папулярызацыю беларускай мовы, мастацтва і гісторыі. Гэта бясплатныя моўныя курсы, слухачамі якіх могуць стаць усе жадаючыя.



# Зала. Праектар. Кіно!





*Фота БелТА*

*Падчас цырымоніі адкрыцця XXI Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад».*

**Кінематаграфісты з усяго свету сабраліся ў беларускай сталіцы на свята кіно — сучаснага і таго, што ўжо стала класікай. XXI Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» зрабіў акцэнт на разнастайнасці фільмаў: ігравое кіно суседнічае з дакументальным, на экранах з'яўляюцца і сусветныя прэм'еры прызнаных майстроў, і дэбюты маладых творцаў. Форум дае ўнікальную магчымасць сустрэцца з выбітнымі рэжысёрамі, сцэнарыстамі, акцёрамі, крытыкамі.**

### АНШЛАГ АДКРЫЦЦЯ

Афіцыйная цырымонія адкрыцця «Лістапада-2014» адбылася ў сталічным кінатэатры «Масква». Падчас урачыстасці намеснік Прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік зачытаў прывітальнае слова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў: «Трэцяе дзесяцігоддзе сваёй гісторыі «Лістапад» пачынае як аўтарытэтны форум, чыя высокая місія захавання маральных і эстэтычных ідэалаў кінематографа, падтрымкі наватарскіх пошукаў сучасных рэжысёраў знаходзіць водгук ва ўсім свеце».

На свяце адкрыцця народны артыст Расіі Станіслаў Гаварухін уганараваны спецыяльным прызам Прэзідэнта Беларусі «За захаванне і развіццё духоўнасці ў кінамастацтве». Узнагароду Кіраўніка дзяржавы артысту ўручыў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. Знакаміты кінарэжысёр і сцэнарыст прызнаўся, што атрыманне спецыяльнага прыза Прэзідэнта Беларусі для яго вялікі гонар і… нечаканасць, бо ён даведаўся пра гэта за некалькі гадзін да ўручэння! На сёлетнім фестывалі Станіслаў Гаварухін прэзентаваў кінастужку «Weekend», рэмейк французскай карціны 1957 года «Ліфт на эшафот», экранізацыі аднайменнага французскага рамана Ноэля Калефа. Прэм'ера адбылася ў 2013 годзе на «Кінатаўры».

Падчас адкрыцця была агучана і калегія Міжнароднага журы кінематаграфістаў асноўнага конкурсу ігравога кіно. Старшынёй абраны вядомы расійскі прадзюсар, сцэнарыст і рэжысёр Валерый Тадароўскі. У конкурсе мінскага кінафестывалю яго рэжысёрскія работы ўдзельнічалі чатыры разы. Сярод іх — фільмы «Палюбоўнік», «Зводны брат», «Краіна» і «Падмаскоўныя вечары», гэта своеасаблівы рэкорд «Лістапада». «Залата» форуму Валерый Тадароўскі атрымаў за знакаміты фільм «Краіна глухіх»; іншыя яго карціны былі ўдастоены ганаровых прызоў і спецыяльных узнагарод ММКФ. Сярод знаёмых гледачам фільмаў В. Тадароўскага — мюзікл «Стылягі», маладзёжны трылер «Ціскі», кінастужкі «Географ глобус прапіў» і «Шагал-Малевіч». Прадзюсарская фільмаграфія знакамітага рэжысёра ўключае такія паспяховыя тэлевізійныя працы, як культавы фільм «Брыгада», шматсерыйная экранізацыя рамана Міхаіла Булгакава «Майстар і Маргарыта» і дванаццацісерыйны фільм «Адліга».

Апрача мноства знакамітых гасцей ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця форуму ўзялі ўдзел народны артыст СССР, ганаровы грамадзянін Мінска, ганаровы старшыня «Лістапада» Расціслаў Янкоўскі і заслужаны артыст Беларусі, старшыня Белтэлерадыёкампаніі, старшыня кінафестывалю Генадзь Давыдзька.

Чытайце на стар. 16

# Каларыт Палякова

Своеасаблiва адзначае 60-годдзе вядомы расійскі пісьменнік і грамадскі дзеяч Юрый Палякоў. Не толькі галоўны рэдактар самага аўтарытэтнага перыядычнага выдання ў рускамоўным асяроддзі — «Литературной газеты», але і сустаршыня Міжнароднага літфонду, член Савета пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі па культуры і мастацтве, член Савета пры Прэзідэнце Расіі па садзейнічанні развіццю інстытутаў грамадскага супольніцтва і правах чалавека.

Абвясціўшы асабістую юбілейную вахту на старонках «ЛГ», якую шмат гадоў таленавіта і абачліва рэдагуе, Юрый Міхайлавіч робіць творчую справаздачу. Перш за ўсё знаёміць чытачоў з вершамі, бо 40 гадоў таму пачынаў менавіта з іх. «Рыхтуючы для выдавецтва «АСТ» новы збор твораў (цяпер ужо ў 10 тамах), я пачаў разбіраць архіў і знайшоў мноства неапублікаваных (цяпер і не памятаю, па якой прычыне) вершаў. Думаю, чытачам будзе цікава параўнаць тэксты, якія паэт-сямідзясятнік пакінуў ляжаць у стале, з тымі, што вывальваюць на суд публікі цяперашнія пііты», — тлумачыць творца.

Працяг юбілейнай вахты пад назвай «Драмы празаіка» яшчэ больш насычаны падзеямі. З самаіроніяй, іскрамётным гумарам апавядае Юрый Міхайлавіч пра шчаслівыя (і не надта) сцэнічныя ўвасабленні сваіх празаічных твораў: «ЧП раённага маштабу», «100 дзён да загаду», «Праца над памылкамі», «Апафегей», «Козлік у малацэ», «Левая грудзь Афрадзіты»… Афарыстычна гучыць прызнанне: «Пазней мне стала зразумела: аўтар у тэатры безабаронны, як прахожы ў зоне антытэрарыстычнай аперацыі». Вельмі актуальнае сёння пытанне: «Куды падзелася, скажам, сатырычная камедыя — жанр, які ўцалеў нават у 1930-я гады і быццам спецыяльна прызначаны для нашага гамерычна несумленнага часу? Няўжо спонсары аказаліся больш страшнымі, чым следчыя НКУС?»

А ці не прымусяць вас згодліва ўсміхнуцца такія словы: «Часам даводзілася сустракацца з акцёрамі, чыё экраннае аблічча адрозніваецца ад жыццёвай пазіцыі як шахід ад хасіда». Або сцвярджэнне наконт таго, што ёсць рэжысёры, якія не ведаюць, чаго хочуць ад пісьменніка, і ёсць тыя, што ведаюць, але будуць сварыцца, абвяргаць, адмаўляць прапановы, сароміць, прыніжаць, пагражаць разрывам і вырваннем авансу. Але як толькі ты выдасі што трэба, яны, у залежнасці ад характару, цябе абнімуць, павядуць у рэстаран або сціпла пахваляць, каб залішне не папесціць «пісарчука».

Увогуле, захапляльна чытаюцца шчырыя ўспаміны, развагі Юрыя Міхайлавіча пра драматычны лёс уласных празаічных твораў і ўзаемаадносіны са знакамітымі рэжысёрамі Даронінай, Табаковым, Гаварухіным. Нядзіўна, што яго п'еса «Кантрольны выстрал» ужо 14 сезонаў не сыходзіць са сцэны Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра імя Горкага.

Аднак слава Палякова як драматурга ўсё ж саступае яго ж славе празаіка. Варта нават проста пералічыць назвы раманаў і аповесцей, каб пераканаць



у гэтым больш-менш дасведчаных чытачоў: «Задумаў я ўцёкі», «За боем бой», «Апафегей», «Дэмгарадок», «Грыбны цар», «Неба паўшых», «Чырвоны тэлефон», «Гіпсавы трубач»…

Часам газеты падобныя па характары на сваіх галоўных рэдактараў: калісьці «Литературка» перадавала ўсе ўласцівасці смелага, часам нават рызыкоўнага Аляксандра Чакоўскага. Сёння газету скіроўвае духоўная сутнасць Юрыя Палякова. Рабіць інтэлектуальную газету для масавага чытача — справа надзвычай складаная. Асабліва ў наш час, калі даводзіцца клапаціцца, каб газета наогул магла выходзіць. Можа, таму ў выданні шмат тэматычных дадаткаў, якія вельмі натуральна падпарадкаваны агульнай накіраванасці. Наўрад ці хто запярэчыць, што калі не ўсё, то вельмі многае трымаецца на каларытнай асобе Юрыя Палякова.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

# Размова пра надзённае

У Цэнтральнай бібліятэцы Цэнтральнага дома афіцэраў г. Мінска адбылася сустрэча старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, вядомага празаіка і публіцыста, палітыка і грамадскага дзеяча Мікалая Чаргінца з курсантамі ваенных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў і членамі ваенна-навуковага таварыства.

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел начальнік Упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Уладзімір Макараў, члены Студыі ваенных пісьменнікаў Алесь Савіцкі, Анатоль Сульянаў, Міхась Пазнякоў, Яўген Каршукоў і іншыя.

Мікалай Чаргінец распавёў пра ролю творцы ў жыцці грамадства, абазначыў задачы пісьменніцкай арганізацыі ў патрыятычным выхаванні насельніцтва. Гаварылася пра важкасць супрацоўніцтва ў гэтым кірунку з ваенным ведамствам краіны. Пісьменнік адказаў на пытанні слухачоў.

Напрыканцы сустрэчы Мікалай Іванавіч уручыў білеты членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі ваенным літаратарам — празаіку Вячаславу Варламаву і публіцысту Уладзіміру Макараву.

**Павел КУЗЬМІЧ**

*Конкурсы*

# Пераможны плакат

Сярод творчай моладзі дзяржаў-удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў абʼяўлены міжнародны конкурс плаката патрыятычнай тэматыкі, прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Арганізатарамі творчага спаборніцтва выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў і рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда». Аўтары да 35 гадоў і творчыя калектывы могуць дасылаць да 15 снежня 2014 г. заяўку на адрас: 220012 г. Мінск, вул. Сурганава, 14а, або на электронную пошту *museum@bdam.by* з абавязковай пазнакай «На конкурс плаката».

Лепшыя работы будуць размешчаны на тэматычнай экспазіцыі плаката падчас работы XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў лютым 2015 г. і на сайце Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Падрабязна пра ўмовы конкурсу можна прачытаць на сайце Выдавецкага дома «Звязда»: *zviazda.by*.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# З любоўю да Турцыі

Літаратурна-музычны вечар пад такой назвай адбыўся ў сталічным Доме дружбы. Вёў імпрэзу вядомы пісьменнік і журналіст, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, старшыня таварыства «Беларусь — Турцыя» Зіновій Прыгодзіч. Перад слухачамі выступілі прадстаўнікі Пасольства Турцыі ў Беларусі Серкан Атабай і Махмуд Халілаглу, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах Ганна Лявіцкая, саветнік аддзела Заходняй Еўропы Міністэрства замежных спраў Беларусі Андрэй Садоўскі.

Паэт і перакладчык Мікола Мятліцкі прачытаў вершы турэцкіх паэтаў, пераствораныя ім па-беларуску. Старшыня Мінскага гарадскога СПБ Міхась Пазнякоў падзяліўся ўражаннямі ад пяцідзённай паездкі пісьменніцкай дэлегацыі ў Стамбул і прачытаў свае вершы, прысвечаныя старажытнаму гораду. Песні на турэцкай і беларускай мовах прагучалі ў выкананні сярэбранага прызёра Міжнароднай алімпіяды па турэцкай мове Ганны Салтановіч. Студэнты факультэта міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта Аліна Гулевіч, Дар'я Гладкова, Аліна Чарніковіч, Юлія Новікава і Раман Гладкіх прадэкламавалі вершы турэцкіх паэтаў на мове арыгінала.

**Міхась ПАЎЛАЎ**

# Дарогі айчыннага кнігавыдання

**Беларускі стэнд на 59-й Міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Бялградзе складаў 12 квадратных метраў. З Кітаем, зразумела, не параўнаць. Хаця і ў нас было прадстаўлена дастаткова шмат навінак. Ды хацелася б усё ж сказаць не пра іх, а пра пэўныя ўражанні ад выстаўкі, ад знаёмства з сербскімі пісьменнікамі і кнігавыдаўцамі.**

Па-першае, відавочная зацікаўленасць сербаў Беларуссю, беларускай літаратурай. Дзясяткі наведвальнікаў падоўгу затрымліваліся ля нашага стэнда — і ўжо не з роспытамі кшталту «А дзе Беларусь? Што гэта за краіна?» У памяці многіх — нядаўні візіт у Бялград Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Сербы, асабліва бялградцы, памятаюць пазіцыю Беларусі, удзел беларускага боку ў дапамозе краіне ў нялёгкія часіны бамбёжак. Дарэчы, большасць будынкаў так і застаюцца са слядамі тых страшных дзён.

Ля беларускага стэнда наведвальнікаў цікавіла турыстычная літаратура — кнігі, якія расказваюць пра краіну. З мастацкіх выданняў асаблівай увагай карысталася дзіцячая літаратура. Тут спрацавалі выдатныя ілюстрацыі нашых кніжных графікаў! Відаць гэта было і па тым, як перачытваліся старонкі кнігі Выдавецкага дома «Звязда», як прысутныя з цікавасцю разглядалі ілюстрацыі Аксаны Аракчэевай, Марыны Каратаевай, Марыі Лось, Валянціна Макаранкі, Алены Карповіч…

Па-другое, частымі гасцямі беларускага стэнда былі сербскія пісьменнікі і кнігавыдаўцы. Падыходзілі не толькі з роспытамі, але і з ідэямі. Напрыклад, адзін з літаратуразнаўцаў і пісьменнікаў гатовы ўзяцца за ўкладанне анталогіі сучаснай беларускай драматургіі і сучаснай беларускай прозы, адрасаванай дзецям. У якасці прыкладу ён прынёс анталагічныя зборнікі, прысвечаныя іншым краінам. Што ж, ідэя вартая ўвагі. Цесныя перамовы прайшлі ў Выдавецкага дома «Звязда» (а яго прадстаўлялі дырэктар — галоўны рэдактар Алесь Карлюкевіч і галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота) з досыць аўтарытэтным выдавецтвам «Крэатыўны цэнтр».

Уразіла, як сербскія выдаўцы рыхтуюцца да выстаўкі. Напрыклад, «Крэатыўны цэнтр» цяпер займаецца прасоўваннем на кніжны рынак маладой пісьменніцы Іваны Нешыч, якая піша для дзяцей. Аўтар спалучае ў сваіх раманах рэчаіснасць і фантасмагорыю. Выдадзена ўсяго толькі дзве кнігі. Але поруч з імі «Крэатыўны цэнтр» падрыхтаваў сінопсіс кожнай на іншых мовах. У тым ліку і на рускай. Гэта невялікія брашуркі, якія дазваляюць унікнуць у змест. І, магчыма, прыняць рашэнне выдаўцам, перакладчыкам з іншых краін. «Крэатыўны цэнтр» актыўна шукае прастору, куды можна прыйсці з новым імем, новымі творамі.

У цэнтры Бялградскай выстаўкі — асобны стэнд пісьменніцы Ліліяны Хабʼянавіч Джуравіч. Яна піша гістарычныя раманы. Адзін з іх у перакладзе на беларускую мову друкаваўся ў часопісе «Полымя», пабачыў свет у Мінску асобным выданнем. Перакладчык — Іван Чарота. Ліліяну шмат перакладаюць на рускую мову. У свой час пісьменніца ўдзельнічала ў міжнародным «круглым стале» пісьменнікаў замежных краін у Дзень беларускага пісьменства. Прыязджала яшчэ раз у Беларусь.

З творцай у нас выдалася вельмі прыязная, хоць і кароткая, размова. Пісьменніца перадала прывітанне прафесару Чароту. Іван Аляксеевіч — самы што ні ёсць паўнамоцны прадстаўнік беларускай культуры, літаратуры ў Сербіі, яго ведаюць дзясяткі, а мо і сотні чалавек. Ліліяна Хабʼянавіч Джуравіч выказала гатоўнасць і надалей супрацоўнічаць з Беларуссю. А наколькі яна папулярная пісьменніца, сведчыць і тое, што мы кожны дзень назіралі чаргу чытачоў па аўтографы да пісьменніцы.

Падчас выстаўкі адбылася прэзентацыя кнігі «Сербія ў Вялікай Вайне 1914 — 1918 гг.», якую пераклалі на рускую мову беларусы Іван Чарота, Аляксей Чарота, Уладзімір Чарота. Ініцыятар гэтага выдавецкага праекта — былы міністр замежных спраў Югаславіі Жывадзін Ёванавіч. Кніга выйшла на некалькіх мовах. У прэзентацыі ўзяў удзел і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Сербіі Уладзімір Чушаў. Ён прадставіў і праект «Апошні прытулак салдата», альбом-манаграфію Выдавецкага дома «Звязда».

Уражлівым атрымаўся на выстаўцы кітайскі стэнд. Тысяча квадратных метраў — яго плошча! Сярод выданняў на кітайскай мове — і збор кніг у перакладзе з кітайскай на сербскую. У іх ліку і сучасныя выданні, у прыватнасці раманы Мо Яня. Гэта сведчыць пра аператыўную ўвагу сербскіх выдаўцоў да падзей сусветнага літаратурнага жыцця.

Выстаўка ў Бялградзе — гэта і пэўныя ўрокі. Найперш, з разлікам на тое, што прапаганда кнігі — сумесны клопат выдаўцоў і саміх пісьменнікаў. Гэтаму нам яшчэ трэба вучыцца.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Песняра неўміручае слова

Літаратурнае свята «Каласавіны» ладзілася сёлета ў 29-ы раз і было прымеркавана да 132-й гадавіны з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа падрыхтавалі шмат цікавых мерапрыемстваў. Адкрылася свята ранішнікам «Казкі жыцця». У госці да дзядзькі Коласа завіталі школьнікі і выхаванцы дзіцячых садоў. Дзеці чыталі вершы паэта, адгадвалі загадкі, пелі, танчылі... Усе атрымалі падарункі ад установы.

У межах свята прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя, якая аб'яднала прадстаўнікоў Беларусі, Расіі, Украіны. Падчас урачыстага адкрыцця намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік падкрэсліў шматграннасць творчасці Песняра, яго вялікі ўнёсак у фарміраванне беларускага грамадства.

Сёлетняя сустрэча «Якуб Колас. Урокі гісторыі» супала з важнымі падзеямі — 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 100-годдзем з пачатку Першай сусветнай вайны. Шмат дакладаў было прысвечана творам Коласа на ваенную тэматыку.

Здаецца, творчасць Песняра вывучана дасканала, але ўдзельнікі Каласаўскіх чытанняў штогод адкрываюць невядомыя факты. «Гэта сведчыць пра тое, што крыніца коласазнаўства не драбнее, а, наадварот, становіцца буйнейшай з кожным годам», — зазначыў пісьменнік і грамадскі дзеяч Анатоль Бутэвіч. Не абышлося без адкрыццяў і на гэты раз: упершыню былі прадстаўлены лісты Коласа да Аляксандры Кетлер. Дагэтуль далікатная тэма не ўздымалася.

Удзельнікаў і гасцей канферэнцыі чакала шмат сюрпрызаў. Увазе прысутных быў прадстаўлены дакументальны фільм 1954 г. «Новы Мінск». Кінастужка ўключае бясцэнныя кадры з Якубам Коласам. Таксама падчас сустрэчы прэзентавалася першая частка інтэрактыўнай пляцоўкі «Паэтычны куток Коласа». Цяпер дворык музея ўпрыгожваюць драўляныя скульптуры знакавых герояў яго твораў — Ядвісі, Лабановіча і Сымона-музыкі. Сапраўдным падарункам для прысутных сталася канцэртная праграма з удзелам кіраўніка ансамбля «Менскі гармонік» Івана Раманчука, у якой былі прэзентаваны песні на словы Якуба Коласа.

Па заканчэнні канферэнцыі навукоўцы і літаратары ўсклалі кветкі да помніка паэта на плошчы яго імя. А на наступны дзень наведалі радзіму Песняра — вёску Мікалаеўшчыну, каб аддаць даніну памяці паэту. У скверы ў гонар Коласа пасадзілі дуб і дрэвы на ўспамін пра 55-годдзе адкрыцця музея паэта.

«Каласавіны» ў чарговы раз пацвердзілі ўсенародную любоў да Песняра, неўміручасць яго паэзіі. Тыя, хто не патрапіў на свята, могуць набыць у музеі зборнік з невядомымі дагэтуль старонкамі жыцця і творчасці Коласа.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Пакаленне адказнасці



Пайшоў з жыцця наш калега — намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Смалянка. Паэт, празаік, журналіст. Нараджэннем з 1936 года. Чалавек, за плячыма якога — дзесяцігоддзі працы, службы ў ваеннай журналістыцы. Палкоўнік у адстаўцы. Як адзнакі яго службы — пасады галоўнага рэдактара газеты Сібірскай ваеннай акругі, уласнага карэспандэнта «Красной звезды» па Беларусі.

Пасля — праца ў «Мінскай праўдзе», «Белорусской лесной газете». Руплівы журналіст, уважлівы да жыцця, сацыяльных, грамадскіх змен публіцыст. Уважлівасць гэтая, асэнсаванне рэчаіснасці і вылівалася ў творчыя вышкі. З-пад пяра Анатоля Смалянкі выходзілі вершы, апавяданні, аповесці, нарысы. Пераломны час, развальныя 1990-я, сумненні і трывогі маладых людзей, якія часам аказваліся выкінутымі на ўзбочыны вялікіх дарог, — у цэнтры ўвагі аднаго з раманаў Анатоля Уладзіміравіча. Дарэчы, і ў апошнія гады празаік працаваў над раманам. Новы твор аказаўся крыху незавершаным...

Так, відаць, заўсёды здараецца ў жыцці: чалавек не паспявае нешта завяршыць, дарабіць.

Асобна хацелася б сказаць вось пра што. Больш за сем гадоў жыцця Анатоль Уладзіміравіч Смалянка аддаў працы ў Мінскім абласным аддзяленні СПБ. І ў гэтай працы, у абавязках, якія на першы погляд пададуцца камусьці не вельмі складанымі, выразна праявіўся яго характар — характар абавязковага, пунктуальнага, адказнага чалавека. Па сустрэчах з ім можна было звяраць гадзіннік. Калі ён дамаўляўся з кім аб размове папярэдне, то не выключана, што мог прыйсці з накіданым планам гаворкі. Вельмі нетаропкі, знешне непаспешлівы, ён на самай справе быў досыць дынамічным, рухавым, здольным шанаваць час і эфектыўна ім распараджацца.

Шкада і сумна, што ўсё менш застаецца сярод нас прадстаўнікоў таго старэйшага пакалення — адказных і нераўнадушных людзей.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка СМАЛЯНКІ Анатоля Уладзіміравіча і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

***17 лістапада** — на літаратурны вечар, прысвечаны паэзіі Кітая, з удзелам паэта, перакладчыка, выкладчыка, майстра кітайскай каліграфіі Лі Цзо, артыстаў сталічных тэатраў, пісьменнікаў, кампазітараў. Імпрэза адбудзецца ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна (вул. Гікалы, 4). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**Мінскае гарадское аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

***17 лістапада** — у літаратурны клуб «Пад белымі крыламі» пры гімназіі-каледжы імя І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 4) на творчую сустрэчу з паэтэсай Нінай Галіноўскай. Пачатак а 15-й гадзіне.*

***19 лістапада** — у літаратурную гасцёўню МГА СПБ «Сугучча» пры СШ № 77 (вул. Крупскай, 10) на творчую сустрэчу з групай беларускіх паэтаў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

***19 лістапада** — у Дом Масквы (вул. Камуністычная, 86, малая зала) на творчы вечар маладых паэтаў, якія пішуць на рускай мове. Пачатак а 17-й гадзіне.*

***20 лістапада** — у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Ганнай Чумаковай. Пачатак а 18-й гадзіне.*

***21 лістапада** — на творчую сустрэчу з паэтамі Генадзем Пашковым, Міхасём Пазняковым, Анатолем Зэкавым, якая пройдзе ў Мемарыяльнай зале СПБ (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

***15 лістапада** — на святкаванне раённых «Дажынак» у аграгарадку Вішнева на Валожыншчыне з удзелам літаратурнага аб'яднання «Рунь» і пісьменнікаў Валянціны Гіруць-Русакевіч і Марыі Шакун. Пачатак а 11-й гадзіне.*

***16 лістапада** — на «Творчую лабараторыю» абласнога клуба паэтаў і кампазітараў «Жывіца». Адбудзецца сустрэча са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым і кампазітарам Анастасіяй Ціхановіч. Месца правядзення мерапрыемства — Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна (г. Мінск, вул. Гікалы, 4). Пачатак а 10-й гадзіне.*

***20 лістапада** — на святкаванне 10-годдзя літаратурнага аб'яднання «Агмень». Свята адбудзецца ў малой зале Палаца культуры г. Маладзечна (Цэнтральная плошча, 4) з удзелам вядомых беларускіх пісьменнікаў у 18.00.*

***28 лістапада** — да ўдзелу ў гульні-віктарыне «Сустрэча з Міхасём Лыньковым», прысвечаная 115-годдзю з дня нараджэння М. Лынькова, беларускага пісьменніка. Месца правядзення мерапрыемства — аддзел абслугоўвання чытачоў 6—9 класаў Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна (г. Мінск, вул. Гікалы, 4). Пачатак а 12-й гадзіне.*

# «Маладосць»: перспектывы

Для часопіса «Маладосць» 2014-ы быў годам эксперыментаў. Як ніколі шмат падрыхтавана тэматычных нумароў, у тым ліку спецвыпуск, прысвечаны літаратурнаму конкурсу «БрамаМар», фантастычны, «багдановіцкі», калядны нумары, двухтомнік «Планета Палессе». Эксперыменты спадабаліся і рэдакцыі, і чытачам.

Асноўная місія «Маладосці» — адкрыццё новых літаратурных імёнаў. Але першы нумар 2015 года будзе прысвечаны Міхалу Клеафасу Агінскаму, аўтару класічнага паланэза. Не менш важна ўзгадваць і, на жаль, амаль забытыя імёны. Таму з'явілася рубрыка «Гістфакт», а цяпер ёсць яшчэ больш маштабная задума — зрабіць нумар, дзе ў мастацкай частцы і крытычна-публіцыстычнай частках будзе раскрыта тэма гісторыі. Неабыякавых запрашаем далучацца!

Праца над спецвыпускам «Беларусь у фантастычных апавяданнях» паказала, што нядрэнна было б часцей рабіць праекты, прысвечаныя фантастычнасці ды фэнтэзі. Бо гэта, бадай, самыя «хадавыя» жанры як для пісьменнікаў, так і для чытачоў.

Рэдакцыя «Маладосці» адкрытая для вашых прапаноў. Галоўнае, каб нам было цікава рыхтаваць часопіс, а вам — чытаць яго.

**Тамара САРАЧЫНСКАЯ**

# Ва Украіне — па-беларуску

Другі этап конкурсу чытальнікаў, прысвечаны беларускай байцы, адбыўся ва ўкраінскім горадзе Ізяславе ў межах Года беларускай культуры.

У першым туры, дэвізам якога быў абраны радок Янкі Купалы «Украіна, цвеце любы, сонцам гадаваны...», удзельнікі выконвалі вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя Украіне. Лепшай стала выпускніца мясцовай гімназіі № 5, а цяпер студэнтка Анастасія Даніленка.

Канкурсанты чыталі са сцэны байкі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Кандрата Крапівы, Эдуарда Валасевіча, Хведара Жычкі ды іншых аўтараў. Пераможцай конкурсу аднагалосна прызнаная адзінаццацікласніца гімназіі № 5 Агнешка Літвінчук.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**г. Ізяслаў, Украіна**

# Памяці марака



Віцебскае абласное аддзяленне грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі», абласныя аддзяленні грамадскіх аб'яднанняў «Беларускі саюз ваенных маракоў» і «Беларускі саюз афіцэраў» панеслі цяжкую страту: 1 лістапада раптоўна памёр капітан І рангу ў адстаўцы, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Рудой.

Ён нарадзіўся 28 чэрвеня 1946 г. у пасёлку Асвея Верхнядзвінскага раёна. У 1969-м скончыў Ленінградскае вышэйшае ваенна-марское вучылішча імя М. Фрунзэ з кваліфікацыяй «Ваенны інжынер-электрамеханік».

У 1973 годзе, набыўшы пэўны досвед ваенна-марской службы, афіцэр Васіль Рудой быў прызначаны камандзірам баявой часткі на ракетны падводны крэйсер стратэгічнага прызначэння. На субмарынах гэтага тыпу прайшоў усе афіцэрскія пасады, да камандзіра экіпажа. Удзельнічаў у далёкіх паходах ва ўсе раёны сусветнага акіяна.

За ўзорнае выкананне заданняў камандавання, засваенне новых тактычных прыёмаў прымянення зброі і падтрыманне высокай баявой гатоўнасці ў 1986 годзе ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Давялося паслужыць Васілю Іосіфавічу і на Балтыйскім флоце: з 1988 года — начальнікам штаба, намеснікам начальніка адной з баз Балтфлоту.

У 1991 годзе Васіль Рудой быў звольнены ў запас і вярнуўся на радзіму. З 1995 па 2003 год узначальваў раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Будучы актыўным сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі, плённа займаўся літаратурнай дзейнасцю, уваходзіў у склад абласной інфармацыйнай групы. Толькі за апошнія пяць гадоў ім былі выдадзены зборнікі аповесцей і апавяданняў «Вар'яцкі экіпаж», «Апошні камісар», «Трыпціх кахання», якія выклікалі вялікую цікавасць у чытачоў, ветэранаў ВМФ. Апошнім часам Васіль Рудой працаваў над новай кнігай «Шлюбная ноч вайны».

За актыўны ўдзел у літаратурным жыцці краіны і выхаваўчую працу сярод моладзі Васіль Рудой быў узнагароджаны вышэйшай узнагародай Саюза пісьменнікаў Беларусі — медалём «За вялікі ўклад у літаратуру».

Для нас, пісьменнікаў Віцебшчыны, ветэранаў ВМФ і ўсіх яго таварышаў, жыццёвы шлях Васіля Іосіфавіча назаўжды застанецца прыкладам служэння Радзіме. Памяць пра яго мы будзем захоўваць, пакуль жывыя, а працяг распачатых ім спраў дзеля славы Беларусі лічым сваім абавязкам.

**Калегі па літаратурным цэху**
**і ветэраны ВМФ**

РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуе разам з супрацоўнікам Анатолем Казловым і выказвае яму шчырыя спачуванні з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Анатолю Казлову з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.

Марыя КОБЕЦ



***

Я сумую па белай зіме,
Белай-белай
і чыстай-чыстай.
З аблачынкаю ў сіняве,
З капяжынкай пад
стрэшкай вячыстай.

Я сумую па белай зіме
З белай выспай
у белым палетку,
З белай шапкай сумётаў,
дзе снег
З цвёрдай-цвёрдай
скарынкай.
А зрэдку
Так сурова завея мяце,
І так грозна мне
ў комін спявае.
А вятрыска…
Мо ён звар'яцеў?
Дах, гарэза, вось-вось
пазрывае.

Я сумую па белай зіме,
З аксамітнай пуховаю
коўдрай.
Захінулася, сніць
можа ў сне,
Як вясна сагравае
лагодна.

Я сумую па белай зіме,
Што спазнала дзіцяці вачыма.
Белым-белым тады быў
гэты свет,
Ноша — лёгкай яшчэ
за плячыма…

Я сумую па белай зіме.
Белай-белай і чыстай-чыстай.
З аблачынкаю ў сіняве,
З капяжынкай
пад стрэшкай
вячыстай.

***

Самаму светламу пачуццю
прысвячаецца...

Мне заўсёды цябе
не хапала:
у вясновым п'янкім паўзмроку,
дзе чаромха пялёсткі губляла
ў ручаін гаманкіх сутоку.

Мне заўсёды цябе не хапала:
У гарачай паўдзённай спёцы,
Калі лета лянотна драмала, —
Без цябе існаваць не ў моцы.

І цяпер, калі верасень плённа
Небагаты пасаг збірае,
Штохвілінна амаль,
штодзённа,
так, цяпер яшчэ больш
не хапае!

Не стае, як паветра! Верыш?!
Ці ж табе я калі ілгала?!
І ў абдымках тваіх аберуч —
Мне заўсёды
цябе замала!

***

Вырываю старонкі, палю, —
З чорнай вокладкай
кнігу знішчаю.
Не гарыць — не хапае агню,
А цярпення ледзь-ледзь
што хапае.

Шэрым попелам рукі бялю.
Едкім дымам спакусы знішчаю.
Падліваю алею, цвялю.
Бруд мярзотны ў сабе
вынішчаю.

Ноч вядзьмарыць.
Няхай.
Я не сплю.
Хоць без сну новы дзень
не спрашчаю.
Вырываю старонкі,
палю, —
З чорнай вокладкай
кнігу знішчаю.

## Палын

Спее...
Зноў спее палын.
Спее-красуе.
А ўночы
хіліцца к долу,
сцяблін
не напаіўшы сірочых.

Спеліць ён горыч.
Адзін.
Пах свой мацуе —
калючы.
Пах твой, о, горыч-палын,
стаў мне прагоркла-балючым!

Што ж ты,
палыне-палын,
запаланіў ўсё наўкола?
Што ж ты згарчэлую стынь
сееш у травах
шаўковых?

Што ж за расліна —
палын —
спее у прыцемках ночы?..

Спее,
зноў спее палын —
Спеліць сыход
мой прарочы.

Віктар КУНЦЭВІЧ



## Аўторак выслухаў мяне

Замест споведзі

Новы дзень —
Аркуш паперы,
Чысты, белы.
«Добры дзень!» —
Адчыніць дзверы
Хтосьці смела.
Крочыць дзень,
Збірае словы,
Словы раздае.
Суразмоўца
Адмысловы.
І мы з ім — свае.
Развітанні і сустрэчы —
Што ж, у добры час!
Раптам чую:
«Добры вечар!»
Дзень пакінуў нас.

На стале аркуш паперы —
Хлеб на ім не рэж.
Паглядзі, калі не верыш:
Нарадзіўся верш.

***

Над лесам, над полем
Вятрыска скуголіць,
Яму тут раздолле,
Як вольнаму воля,
І ён завывае,
І дрэвы хістае,
І пыл уздымае,
А часам — спявае.
Я слухаю вецер
Амаль кожны вечар,
Старой вярбы веце
Кранае за плечы —
Адзін на падворку,
Лічы, што ў сусвеце.
Было б вельмі горка,
Калі б вось не вецер.
Глядзіць мая хата
Далёка і блізка,
Нібыта за братам
Сястра —
За вятрыскам.

Глянеш — гайдаецца
На вершалінах дрэў,
Мне падаецца, што ён
Спавядаецца, каецца
За свой раз'ятраны гнеў.

Сарваны з даху,
Шыфер валяецца,
Завіс паламаны сук,
Электраправад канцамі
Матляецца.
Скрыпіць нейкі дзіўны гук…
Працэс жыцця не спыняецца:
Збіраюць людзі ламачча
І вецце…
Ды пройдзе час,
Зноў разгуляецца,
Зашуміць ашалелы вецер.
Чаму яго гнеў разгараецца,
Што, можа ён біць, крышыць,
Ламаць?
Такое чаму адбываецца? —
Зірну ў я на дрэвы,
А ветру няма...

Успаміны напоўнілі хату,
Успаміны — як смецце.
Я стаміўся,
Я думаў багата,
Калі смецце выносіў.
Вецер, быццам галодны сабака,
Грыз, хапаў,
Шкуматаў успаміны.
Я стаяў і без слёз
Ціха плакаў,
І сплываў пад небам
Клін жураўліны.

А дні мае
Цяпер ледзь брыдуць —
Няма куды спяшацца.
Можна спыніцца,
Азірнуцца,
А можна — не спыняцца.
Як без цябе?
І дні ў самоце,
І боль не міне.
Але ж я скардзіўся
Суботе.
Аўторак выслухаў мяне.

Без цябе я
З тугі напіўся.
Навошта? Сам не знаю…
З дарогі рытм жыццёвы
Збіўся.
Вярніся.
Прападаю.

Пэўна, мяне ты
Не пачуеш —
Далёка ты, далёка…
Мне не знайсці,
Як ты, — такую,
Але — шчыруе вока,
І дні мае
Цяпер ледзь брыдуць,
Ды што я ўсё пра дні?!
Яны вядуць,
Альбо не вядуць,
Яны — і пух, і камяні.
Ты без мяне,
Я адчуваю,
Жывеш у даўніх днях.
У снах сваіх
Мяне шукаеш —
Мне час збірацца
У шлях.

Надзея ПАРЧУК



## Пасля ростані

Ізноў я тут: вітаюся
з радзімаю,
Хмялею зноў ад спелых
васількоў,
А нада мною неба
ясна-сіняе
Звініць раздольнай
песняй жаўрукоў.

Плывуць аблокі белымі
палотнамі
Так, як плылі стагоддзямі раней,
А я сачу за птушкамі пралётнымі,
Якім, бы й мне, няма
зямлі радней.

Няма мілей прыволля залацістага
І даражэй за поля светлыню —
Я шум гаёў і росы
серабрыстыя,
Здаецца, чую,
бачу ўпершыню.

Бы першы раз гляджу
ў нябёсы сінія...
Сваёй душы шапчу: запамінай —
Красу зямлі і спевы
ў высях дзіўныя
Ўбірай навек і ўсюды
праслаўляй.

...Плывуць аблокі белымі
палотнамі,
Нястомна сонца
шчодрае гарыць —
Старанна спеліць промнямі
пяшчотнымі
Маёй зямлі багатыя дары.

***

Ну, хто ў дзяцінстве вершаў не пісаў?!
І я тварыць таксама спрабавала —
Мяне Купала мудрасцю натхняў,
Любоўю светлай маці благаслаўляла.

І хоць даўно дзяцінства адышло,
Але яно бясследна не прапала:
Благаслаўленне тое прарасло
І ў вершаваных рыфмах
загучала...

***

Не кожны можа зоркаю свяціцца,
Не кожны здольны сонечна гарэць:
З адной душы жывая б'е крыніца,
З другой нап'ешся —
можаш захварэць.

Ад раўнадушных тленнікаў заўсёды
Адыдзе моўчкі мудры чалавек,
Бо ні спагады-міласці, ні згоды
Не прычакаеш ад яго за век.

Спрадвеку людзі светласці шукаюць,
Каб ад яе хоць крышку падабрэць.
Ідуць да тых, хто боль чужы ўспрымае
І дабрынёй умее адагрэць.

...Не кожны можа зоркаю свяціцца,
Не кожны здольны сонцам узысці,
Ды кожны прагне ўволю наталіцца
Жывой вадой, а багну абысці.

## Святлістага сонца жадаю

Я зноў, ад'язджаючы ў горад,
Сумота і боль у грудзях.
Прашу вас, і сонца, і зоры:
Часцей тут бывайце ў гасцях.

Вы прыклад з мяне не бярыце:
Нявартая прыкладу я.
Штодзень тут, штоночы
свяціце,
Бо гэта ж радзіма мая,

Бо гэта ж мой любы куточак —
Прытулак маіх землякоў.
О, колькі ён выгушкаў дочак!
О, колькі падняў ён сыноў!

І хто іх сягоння падлічыць?
І як іх да гурту збярэш?
Ды кожны зямлі гэтай зычыць
Святлістага сонца найперш...

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

*Эсэ*

# Прыснілася вясна



Пад раніцу мне прыснілася вясна. У яе не было твару, увогуле ніякага аблічча, але сэрца стукала і нібыта крычала: «Гэта вясна!»

Дзіўна, я спаў, але ў гэтым сне сам сабе задаваў пытанні: «Чаму вясна? Што такое вясна, гэта сон ці не сон?»

Так бывае: нешта сніцца, але ты падсвядома адчуваеш, што гэта не направду, і імкнешся прачнуцца, асабліва калі сон непрыемны ці страшны. Апошнім часам мне часта сніцца, што спазняюся на свой аўтобус, спрабую дагнаць ледзь бачныя агеньчыкі задніх ліхтароў, але ён няўмольна выпраўляецца ўдалеч з маімі рэчамі, пакінутымі на сядзенні. Хапаюся за мабільнік, але ён чамусьці не працуе…

Прачынаюся мокры ад поту, сэрца тахкае…

Вясна снілася па-іншаму. Нібыта жаночыя ласкавыя рукі пяшчотна абдымалі за плечы, халодныя доўгія пальцы слізгалі па спіне і свядомасць напаўняла млявае п'янкое адхланне… Як тады, у шчаслівыя хвіліны маладога кахання, якія з гадамі пачалі патроху забывацца.

І прачынацца зусім не хацелася — хацелася, каб вось гэтае адчуванне радасці і спакою не прападала.

Але трэба было падымацца на працу. На кухні ўжо гарэла святло, бадзёра свісцеў чайнік.

Сонца зазірала праз фіранку, і гэта было першым сігналам, што сон у руку, бо напярэдадні цэлы тыдзень суцэльная шэрань вісела над горадам, нудотная і маўклівая.

На вуліцы нечакана працяла холадам. «Якая, к чорту, вясна? Мароз — нібыта ў студзені! Даўно не было такога».

Ды неба было ярка-сінім, нават з фіялетавым адлівам, што нагадвала пра пераход у зусім іншы стан, бо зімой яно нейкае шызае, халоднае.

Людзі спяшаліся: хто бег на бліжэйшы трамвайны прыпынак, хто нецярпліва таптаўся перад чырвоным агеньчыкам светлафора, каб ірвануць з высокага старту ў свой звыклы забег па аднойчы выбраным рабочым маршруце.

Я люблю прайсціся пехатой, назіраючы за людзьмі, спыняючы погляд на маладых, стройных дзяўчатах, якія, бы раннія чароўныя птушкі, падлетам імкнуцца хто на вучобу, а хто на працу…

Цокае такая абцасікамі — бы выбівае бравурную мелодыю, сама быццам каштоўная статуэтка, і хочацца любавацца гэтым цудам бясконца. Дзе ні бываў, па Еўропах і Азіях, здаецца, нідзе такіх прыгожых дзяўчат, як у Мінску, не бачыў.

Да сталіцы я прывык не адразу. Штодня мроілася шырокая родная Дзвіна, вежы Сафійкі, родны мілы Полацк, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва, дзе на Чырвоных могілках сціплыя магілы мамы і таты…

Але выратавала вясна. Вярталіся з новым сябрам з гасцей. За размовамі, чаркай не заўважылі, што ўжо бралася на раніцу. Прайшоў цёплы дожджык, вясёлыя кроплі на трамвайных рэйках зіхацелі ў першых сонечных промнях. Першыя клейкія зялёныя лісцікі на дрэвах, здавалася, толькі што вылезлі з набухлых пупышак і разлівалі вакол такі свежы п'янкі водар, што галава ішла кругам.

«Гэта і мой горад, — падумаў тады я, — усё тут: і сябра, і гэты вясновы ранак — маё блізкае, роднае, як дома…»

Але вось ужо дзесяць гадоў, як новыя вёсны я сустракаю без свайго сябра, сэрца якога не вытрымала ўсіх выпрабаванняў, якія наслаў на наша пакаленне час. Але вёсны больш трывалыя, чым людзі, — яны не паддаюцца злым сіверам, перамагаюць штогод панылыя зімы, усяляючы надзеі і мроі ў нас.

І сёння я быў шчаслівы. Мне снілася вясна, а значыць, жыццё працягвалася, значыць, трэба яшчэ верыць у добрае і светлае, змагацца з цемрай і паняверкай, адным словам — жыць.

# Качка па-пекінску

— Я заказаў для нас рэстаран, — сказаў стары, калі мы ўжо сталі збірацца дадому. — Тут непадалёк. Я хачу, каб вы сапраўдную качку па-пекінску пакаштавалі.

Мы ўжо да гэтага правялі некалькі гадзін у яго кватэры на шаснаццатым паверсе пекінскага хмарачоса, з невялікімі пакоямі, застаўленымі паліцамі з кніжкамі, з карцінамі на сценах.

Ён быў мастак і паэт. У Кітаі гэта заўсёды было амаль адно і тое ж. Тут і простае напісанне іерогліфаў — амаль выяўленчае мастацтва. А старажытныя каліграфы былі адначасова філосафамі і паэтамі.

Стары нечым нагадваў майго бацьку. Дзіўна: абсалютнае непадабенства кітайскага тыпу твару на ягоны, але ціхая сарамлівая ўсмешка, невялікія рабацінкі на твары, як у многіх пажылых людзей, рабілі яго блізкім і амаль родным. Ды і гадоў яму было, як майму бацьку перад сыходам у іншы свет, — восемдзесят шэсць.

Мы з дачкой дабраліся ў госці на метро, дзе на станцыі нас чакалі яго дачка і пляменніца з машынай. Што такое падарожнічаць па Пекіне, ведаюць толькі тыя, хто там пабываў. Дзякуй богу, што там ёсць падземка. Сорак пяць хвілін у амаль набітым да адказу вагоне, перасадка, яшчэ дваццаць хвілін — і вось мы на паверхні. Прыгожая ўсмешлівая немаладая кітаянка і яе маладзейшая спадарожніца пазналі нас адразу, бо ў натоўпе нашы еўрапейскія твары прыкметна выдзяляліся.

Дачка збольшага ведала кітайскую. Я дапамагаў ёй на слабай англійскай. Мы неяк паразумеліся і праз некалькі мінут (а стары жыў сапраўды непадалёк ад станцыі метро) падымаліся ўжо на яго шаснаццаты паверх.

Першае, што ўразіла, — яго правільная руская мова. Не такая, як у кітайскіх перакладчыкаў, а зусім жывая гаворка.

— Я ж з Харбіна, — заўважыўшы маё здзіўленне, сказаў стары. — Столькі карашкоў па школе меў, гэта цяпер многае пазабываўся.

Гэтае ягонае «карашкоў» з вуснаў кітайскага старога прагучала асабліва кранальна.

Мы ўвайшлі ў гасцявы пакой. Пляменніца хутка развіталася, а дачка пайшла гатаваць гарбату.

— Прыехала з Калумбіі, — хітнуўшы галавой у яе бок, заўважыў стары. — Як мая жонка памерла, не захацела кідаць мяне аднаго.

— А што ў Калумбіі рабіла? — пацікавіўся я.

— Яна, як мая жонка, — актрыса. А тут культурная рэвалюцыя. Паслалі ў вёску на прымусовыя працы. Спала з авечкамі ў хляве. А якраз з Калумбіі багаты кітаец аб'явіўся. Удалося неяк пабрацца шлюбам і з'ехаць. Але, відаць, не лёсіла іх сямейнаму жыццю. Забілі таго. Засталася адна ў замку са слугамі. Ды што тое багацце, калі ёсць радзіма, ды і я адзін застаўся.

Прамаўляў ён гэта спакойна, бы самыя звычайныя рэчы.

— А як вы тую рэвалюцыю перажылі? — запытаўся я.

— А што там, — махнуў стары рукой. — Як там у вас, хто старое памяне… Адно скажу: усё папракалі, што Талстога і Ясеніна маляваў, ды і вашага Танка.

Менавіта асоба Танка і паслужыла прычынай нашага паездкі. Стары доўгі час перапісваўся з Яўгенам Іванавічам пасля іх знаёмства падчас паездкі пісьменніцкай дэлегацыі ў Кітай. Потым тая ж культурная рэвалюцыя спыніла іх перапіску.

Мы разглядалі альбомы з яго карцінамі. Дачка прынесла кубачкі з духмяным свежым чаем. Чай у Кітаі п'юць маленькімі кубачкамі, а заварванне — цэлая цырымонія. Затое смак зусім не падобны на той, што п'ём дома мы. Дарэчы, кітайцы ніколі не даліваюць падагрэты чай ён заўсёды павінен быць свежым і не пакідацца на потым.

— Я быў просты хлопец з небагатай сям'і, — распавядаў стары. — Вучыўся ў мастацкай школе, дзе выкладалі рускія, што ўцяклі ад бальшавікоў. А яна была маладая актрыса. Прыгожая вельмі, паклоннікаў шмат. А ў мяне і касцюма прыстойнага не было. Два гады дабіваўся яе рукі. І нарэшце крэпасць пала!

Ён гэта сказаў так сакавіта па-руску, што я ўявіў сабе гэтага маладога кітайца, які пакарыў крэпасць прыгажуні-артысткі.

— А падчас культурнай рэвалюцыі яна аслепла, — працягваў стары. — А потым і зусім хадзіць перастала. Колькі я перанёс, думаў, як жыць без яе!

І зноў я згадаў свайго бацьку. Як ён сядзеў ля ложка прыкаванай інсультам мамы, як трымаў яе руку ў адзінай сваёй, бо другую страціў на фронце. І зноў у душы заварушылася нейкае цёплае, шчымлівае пачуццё да гэтага старога тут, у далёкім і не знаным дагэтуль Пекіне.

Стары папрасіў мяне пасядзець і хутка, алоўкам, накідаў мой партрэт. «Тут ты на кітайца вельмі падобны», — шапнула мне дачка.

І сапраўды, у рысах майго твару стары неяк убачыў нешта зусім не характэрнае для мяне, хаця падабенства было відавочным.

— Стары стаў, страціў кваліфікацыю, — суразмоўца, відаць, злавіў мой крыху азадачаны позірк. — Каб было больш часу, — сапраўдны партрэт зрабіў бы. А гэта так, накід.

Тым не менш ён падпісаў па-кітайску некалькі радкоў і, вынуўшы з футарала ўласную пячатку, прыклаў яе да аркуша.

А потым мы пайшлі ў рэстаран. Усмешлівая прыгожая кітаянка правяла нас у асобную залу. На круглым стале на шкляным падносе мяняліся розныя стравы. Тут быў і суп, які падаграваўся на агні невялікай газоўкі, падобнай нечым на старадаўнія прымусы, якія я бачыў у дзяцінстве, і духмяныя пельмені, і разнастайная зяляніна, і яшчэ нешта зусім не знаёмае, смачнае і духмянае.

Стары вучыў мяне, як трымаць палачкі, расказваў пра кожную страву.

Потым нарэшце прынеслі качку. Я толькі цяпер ведаю, як па-сапраўднаму кітайцы ядуць качку. Гэта цэлы рытуал. Асабліва складана палачкамі загортваць мяса ў блінок і макаць гэты своеасаблівы бутэрброд у розныя соусы.

Убачыўшы, як я мучаюся, стары ўсміхнуўся і сказаў :

— Можна, я табе буду рукамі загортваць мяса ?

І рукі яго такія блізкія былі, зусім пахатняму цёплымі, і пальцы з каратка падстрыжанымі пазногцямі нагадвалі нешта роднае і знаёмае.

— А праўда, ён нечым падобны на нашага дзядулю? — спытала, калі мы вярталіся дадому, дачка.

Я ўдзячна паглядзеў на яе, бо ведаў, як яна любіла дзеда, як той ласкава і беражна гладзіў яе па густых цёмных валасах і гаварыў, што яна вельмі падобная на сваю бабулю, яго жонку.

Цяпер, калі выпадае зрэдку на якім-небудзь прыёме ці ў сяброўскай вячэры есці качку па-пекінску, узгадваю далёкага кітайскага старога, так падобнага ў нечым на майго бацьку, хоць на самай справе ніякага знешняга падабенства, канечне, няма.

# «Палавінкін сын»

Так называюць мяне хатнія, таму што я часта пакідаю, не даеўшы, палавінку цукеркі, палавіну булкі, дзялю напалам кавалак каўбасы…

Я доўга не заўважаў за сабой такога і не звяртаў увагі на падколванні, пакуль не ўзгадаў, што гэтак заўсёды рабіла мая мама.

Гэтая звычка ў яе была, відаць, ад таго, што ў маладосці яна перанесла ленінградскую блакаду. Выпускніца педінстытута, яна не паспела эвакуіравацца, і доўгія дні і ночы голад і холад спадарожнічалі ёй пастаянна. Яна бачыла, як паміраюць ад голаду моцныя мужчыны, пад бамбёжкамі выкопвала з мёрзлай зямлі старое бацвінне, варыла сталярны клей…

Калі яе, паўжывую, пераправілі праз Ладагу, доўга не магла наесціся і адкладвала кавалкі на потым, каб адразу не напіхацца, бо можна было памерці ад перазядання…

Дома ў нас заўсёды было сытна. Першае пытанне ў мамы было: «Ці не галодны?» І ў той жа час яна сачыла, каб мы з сястрой не пераядалі.

Кожнага, хто прыходзіў да нас, чакаў сціплы пачастунак — смажаная ці вараная бульба, суп з мучнымі клёцкамі, бабка.

Мама ніколі не пыталася ў гасцей, ці хочуць есці. Проста выстаўляла на стол што было.

Гэтак стараюся рабіць і я. Але тое, што пераняў маміны звычкі пакідаць нешта з ежы «на потым», заўважыў нядаўна.

А кажуць яшчэ, што не бывае генетычнай памяці...

# Далёкія астравы, згубленыя скарбы



*Янка Маўр.*

**Жанр прыгодніцкай літаратуры сфарміраваўся ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Папярэднічалі яму такія літаратурныя плыні ў еўрапейскай культуры, як рамантызм і неарамантызм, народжаныя прагай экзотыкі і яркіх пачуццяў, — у процівагу шэрай мяшчанскай будзённасці. Апроч таго, прыгодніцкая літаратура абапіраецца на досвед шматстайных літаратурна-мастацкіх апавядальных жанраў з авантурна-займальнай усталёўкай, якія атрымалі развіццё значна раней: гэта рыцарскі эпас XII — XVI стст., раманы барока («Астрэя» д'Юрфе, напрыклад), «куцельскія» раманы, літаратура вандраванняў XVII — XVIII стст. і гатычны раман прадрамантызму з яго таямніцамі і жахамі.**



*Уладзімір Караткевіч.*

## НАРАДЖЭННЕ ЖАНРУ

Галоўныя рысы ўсякага прыгодніцкага рамана — гэта выразнае дзяленне персанажаў на герояў і злыдняў, імклівае развіццё падзей. Сюжэту пры гэтым уласцівыя таямнічасць і авантурнасць, героям — харызматычнасць, яркасць характараў і эмацыянальнасць.

На зараджэнне прыгодніцкай літаратуры прыкметна паўплывалі гатычныя ды гістарычныя раманы Вальтэра Скота і Віктора Гюго, а ўжо ў само фарміраванне жанру ўнёсак зрабілі майстры неарамантычнай прозы Аляксандр Дзюма і Роберт Льюіс Стывенсан.

Напачатку ў новым жанры вылучыліся гісторыка-прыгодніцкія («Тры мушкецёры», «Каралева Марго» А. Дзюма) і сацыяльна-прыгодніцкія творы («Граф Монтэ-Крыста» А. Дзюма, «Парыжскія таямніцы» С. Эжэна). Таксама аднымі з першых узораў прыгодніцкай літаратуры з'явіліся «марскія раманы» Фрэдэрыка Марыэта і серыя раманаў з амерыканскага жыцця Фенімара Купера.

Перыяд канца XIX — пачатку XX ст. стаў «залатым векам» прыгодніцкай літаратуры. Да гэтага часу з жанру ўжо вылучылася дастаткова багата падвідаў: кнігі пра пошукі скарбаў, пра піратаў, пра індзейцаў, марскія раманы, каланіяльныя, шпіёнскія, рабінзанады ды інш.

## ПЕРШЫЯ-ЛЕПШЫЯ

Званне першаадкрывальніка прыгодніцкага жанру ў беларускай літаратуры па праве належыць пісьменніку Янку Маўру. Яго аповесць пра першабытнага чалавека — а ў нечым і пра першаадкрывальніка — «Чалавек ідзе», надрукаваная ў 1925 годзе ў часопісе «Белорусский пионер», паклала пачатак гэтаму «віду» літаратуры.

Затым былі аповесці пра туземцаў паўднёвых выспаў у Ціхім акіяне «У краіне райскай птушкі» (1926), «Сын вады» (1928), раман пра паўстанні на в. Ява «Амок» (1929). Не можа не хваляваць кранальны аповед «Слёзы Тубі» (1927) пра цэйлонскага хлопчыка, які, каб не памерці з голаду, змушаны штодня, рызыкуючы жыццём, збіраць на дне акіяна жамчужныя ракавіны.

Да родных мясцін Янка Маўр звярнуўся ў аповесці «Палескія рабінзоны» (1929), якая карысталася вялікім поспехам у чытачоў. За аснову аповесці ўзятая тэма рабінзанады Даніэля Дэфо, але экзотыку далёкіх заморскіх краін аўтар замяніў рамантыкай і прыгажосцю беларускай прыроды. А ў 1934 годзе выйшла яго аповесць «ТВТ» («Таварыства ваяўнічых тэхнікаў»), якая стала выклікам афіцыйнай нарматыўнай педагогіцы, бо ініцыятыва арганізацыі сыходзіла ад саміх дзяцей, якія без дапамогі дарослых вырашаюць тэхнічныя, гаспадарчыя і жыццёвыя праблемы. На ўсебеларускім конкурсе дзіцячай кнігі «ТВТ» атрымала першую прэмію.

> *Уладзімір Караткевіч небеспадстаўна называў сябе беларускім Аляксандрам Дзюма. Сваю першую прыгодніцкую аповесць «Загадка Неферціці» ён напісаў яшчэ старшакласнікам.*

Рамантычнай скіраванасцю і высокай мастацкасцю вылучаюцца гісторыка-прыгодніцкія творы Уладзіміра Караткевіча, які сам сябе небеспадстаўна называў беларускім Аляксандрам Дзюма. Сваю першую прыгодніцкую аповесць, «Загадка Неферціці», Караткевіч напісаў яшчэ ў школе, старшакласнікам. Асаблівае месца сярод яго твораў займае раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1966), у якім пісьменнік выкарыстаў матэрыялы хронік і летапісаў, біблейскія тэксты і вытрымкі з мастацкіх твораў, народныя выслоўі. У творы — увесь набор класічнага прыгодніцкага рамана: гэта і інтрыгуючы сюжэт з нечаканымі развязкамі, і дэшыфроўка тэкстаў, і пагоні, і бойкі, і каханне. Але сапраўдную вядомасць прынесла аўтару гісторыка-прыгодніцкая аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» (1958, апубл. 1964), пра якую Васіль Быкаў казаў: «Створаная паводле выпрабаваных канонаў прыгодніцкай рамантыкі, гэтая аповесць мае і нешта адметнае ў сваёй структуры, нейкую ўласцівую ёй таямнічую загадку, якую нават цяжка растлумачыць з пазіцый фармальнай логікі, а можна хіба адчуць».

Да гісторыка-прыгодніцкага жанру паспрабаваў звярнуцца і сам В. Быкаў у ваеннай аповесці «Апошні баец» (1957).

Мае гістарычную аснову і гісторыка-прыгодніцкі раман Леаніда Дайнекі «Меч князя Вячкі» (1987), падзеі якога адбываюцца ў XIII ст. Тэма рамана — барацьба гарадкан старажытнага Полацка з тэўтонскімі рыцарамі-крыжакамі. За гістарычны раман «Меч князя Вячкі» Леанід Дайнека ўзнагароджаны Літаратурнай прэміяй Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Івана Мележа (1989). Са старонкамі беларускай гісторыі знаёміць нас аўтар і ў рамане «След ваўкалака» (1988), у якім распавядаецца пра маловядомыя старонкі жыцця князя Усяслава Полацкага. За абодва раманы Леанід Дайнека ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя К. Каліноўскага (1990).

Да адной з любімых тэм Я. Маўра — тэмы далёкіх акіянскіх выспаў — звярнуўся Павел Місько ў аповесці «Грот афаліны» (1985). Падзеі ў ёй разгортваюцца на выспах і атолах архіпелага, празванага Вясёлым, куды прыязджаюць весяліцца багацеі. Але не да весялосці карэнным жыхарам. Падзеі адбываюцца на зямлі і пад зямлёй, на вадзе і пад вадой, а героі — не толькі людзі, але і дэльфіны.

## НЕБЯСПЕЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

Акунаюцца ў прыгоды ў нашых мясцінах героі аповесці Андрэя Федарэнкі «Шчарбаты талер» (1999). У рукі траіх хлопчыкаў і дзвюх дзяўчынак трапляе старая карта-схема ды некалькі срэбных талераў, і падчас школьных вакацый героі выпраўляюцца шукаць скарбы напалеонаўскага войска. Па аповесці на «Беларусьфільме» быў зняты чатырохсерыйны мастацкі фільм «Тры талеры» (2005), а сама аповесць уключана ў школьныя хрэстаматыі. У 2001 годзе выйшаў яшчэ адзін паспяховы твор аўтара — «Афганская шкатулка», у якім падзеі сканцэнтраваны вакол пошукаў афганскай шкатулкі, што патрапляе праз знявечанага Афганскай вайной салдата на тэрыторыю Беларусі.

> *Адметнае месца ў прыгодніцкай прозе 2000-х займаюць творы Людмілы Рублеўскай, у якіх сучаснасць пераплятаецца з мінулым. Так, у рукі мастацтвазнаўцы Касі, гераіні аповесці «Сэрца мармуровага анёла», трапляе чорная жамчужына каралевы Боны. Папулярная ў чытачоў і прыгодніцка-фантасмагарычная трылогія пра Пранціша Вырвіча.*

У твораў Аляксея Якімовіча — моцная патрыятычная скіраванасць. Гаворка ў аповесці «Калі кукавала зязюля» (упершыню надрукаваная ў часопісе «Маладосць» у 1996 г. пад назвай «За родную зямлю») вядзецца пра падзеі XVI ст., часы вайны з Масковіяй. А аповесць «Панскае дзіця» (надр. у «Маладосці», 1998) распавядае пра нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1794 года ў Польшчы, Беларусі і Літве супраць царскай Расіі і Прусіі, якія ў 1793 г. ажыццявілі другі падзел Рэчы Паспалітай. Абодва творы ўвайшлі ў кнігу «Калі кукавала зязюля» (2013), выдадзеную ў бібліятэцы «Пераходны ўзрост» Выдавецкага дома «Звязда».

> *Званне першаадкрывальніка прыгодніцкага жанру ў беларускай літаратуры па праве належыць пісьменніку Янку Маўру. Яго аповесць пра першабытнага чалавека — а ў нечым і пра першаадкрывальніка — «Чалавек ідзе», надрукаваная ў 1925 годзе ў часопісе «Белорусский пионер», паклала пачатак гэтаму «віду» літаратуры.*

Адметнае месца ў прыгодніцкай прозе 2000-х займаюць творы Людмілы Рублеўскай, у якіх нярэдка сучаснасць пераплятаецца з мінулым. Героі яе кніг разгадваюць таямніцы нашай гісторыі, шукаюць скарбы, самаахвярна змагаюцца і за Радзіму, і за каханне. Так, гераіня аповесці «Сэрца мармуровага анёла» (2000) мастацтвазнаўца Кася, у рукі якой падчас пошуку «каштоўных экспанатаў» у адным з правінцыяльных краязнаўчых музеяў трапляе чорная жамчужына каралевы Боны, сама заўважае: «Люблю вандраваць. Часам гэтая схільнасць ублытвае мяне ў авантурныя падзеі…» Арыгінальны сюжэт і ў прыгодніцка-фантасмагарычнай трылогіі Л. Рублеўскай пра Пранціша Вырвіча. У першай яе частцы, «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега», чытач сустракаецца са збеглым вучнем Менскага езуіцкага калегіума Пранцішам Вырвічам і доктарам Баўтрамеем Лёднікам з Полацка, якіх лёс заносіць у сутарэнні Слуцка, Менска і Полацка; яны выратоўваюць Сільфіду, здабываюць дзіду святога Маўрыкія, а таксама змагаюцца за гонар і за Радзіму. У другой частцы, «Авантуры студыёзуса Вырвіча» (2014), героі вандруюць праз усю Еўропу XVIII стагоддзя, трапляюць і выблытваюцца з магнацкіх інтрыг вакол трона Рэчы Паспалітай.

Да тэмы паўстання 1863 — 1864 гг. звярнуўся Алесь Наварыч у рамане «Літоўскі воўк» (2005), прасякнутым духам авантурызму, любоўнымі інтрыгамі і ўзнёслай прагай герояў да волі. За гэты твор пісьменнік атрымаў спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2003).

Пра драматычныя падзеі славянскай гісторыі на мяжы IX — X стагоддзяў распавядае гісторыка-прыгодніцкі раман Зінаіды Дудзюк «Велясіты» (2011). Раман закранае тэму адносін славян з Візантыйскай імперыяй, каралеўствам франкаў, а таксама цюркскімі плямёнамі.

На фоне апісанняў гістарычных падзей нечакана вылучаецца містычна-прыгодніцкая аповесць Дзмітрыя Пятровіча «Белая жанчына» (2012), дзе апісваюцца небяспечныя прыгоды сяброў-спелеолагаў.

## ЯК НАТХНЯЮЦЬ РАДЗІВІЛЫ

Беларускай прыгодніцкай літаратуры збольшага ўласцівая менавіта гістарычная тэматыка, якая прадстаўлена і ў іншых жанрах, напрыклад, дэтэктыве. І тут не меншую цікавасць і захапленне, чым паўстанні на нашай зямлі, выклікае адна з нераскрытых загадак беларускай гісторыі — легенда пра незлічоныя скарбы князёў Радзівілаў і перш-наперш самы загадкавы з іх — дагэтуль не знойдзеныя легендарныя дванаццаць залатых апосталаў. Так, Кастусь Тарасаў прысвяціў гэтай тэме апавяданне «Аўдытарская праверка ў Нясвіжы, альбо Скарб Нясвіжскага замку» (2006).

Таямніцы мінулага і сучаснасці перапляла вядомая дэтэктыўшчыца Вольга Тарасевіч у кнізе «Скарб князёў Радзівілаў» (2008), дзе паказаныя часы панавання ў Нясвіжы Дамініка Радзівіла, калі падчас напалеонаўскага паходу на Расію з палаца знікаюць легендарныя «дванаццаць апосталаў». Але пісьменніца рызыкнула пайсці далей і працягнула легенду да нашага часу, выкарыстаўшы нясвіжскія паданні як аснову прыгодніцкага дэтэктыву з насычанай сюжэтнай лініяй. Раман «Скарб князёў Радзівілаў» быў экранізаваны.

Пра загадкавую гісторыю легендарных скарбаў, якія належалі Радзівілам і таямніча зніклі ў далёкім 1812 годзе, распавядае і прыгодніцкі раман-містэрыя Аляксандра Аляшкевіча «Залатыя апосталы Радзівілаўскія» (2011).

На фоне старажытнага і сучаснага Нясвіжа разгортваюцца падзеі па пошуку сямейнай рэліквіі роду Радзівілаў у гісторыка-прыгодніцкім рамане Эндру Олвіка (калектыўны псеўданім Віктара Лабковіча, Алега Сухамера і Андрэя Астраумава) «Сляды апосталаў. Сакрэтныя матэрыялы» (2011). Тут таксама пераплятаюцца легенды і рэальнасць, забойствы і каханне, а сярод асноўных герояў апынаюцца супрацоўнікі савецкай і германскай разведак, прадстаўнікі Ватыкана і сябры акультных супольнасцей. Раман быў экранізаваны ў 2013 годзе на Беларусьфільме як чатырохсерыйны фільм «Сляды апосталаў».

Багатая гісторыка-культурная спадчына натхняе нашых аўтараў на новыя творы, якія працягваюць традыцыі айчыннай прыгодніцкай літаратуры.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# Чалавечы твар гісторыі

Сёлета ўбачыў свет раман Уладзіміра Гніламёдава «Валошкі на мяжы» — чацвёрты з раманнага цыкла, які аўтар прысвяціў мінуламу сваіх землякоў. Высокія вартасці твора засведчаны перадусім сведкамі перыяду, апісанага ў рамане. У прыватнасці, бацька аўтара гэтых радкоў, прачытаўшы «Валошкі на мяжы», прамовіў: «Пішуць жа яшчэ праўду!»

Упершыню твор быў апублікаваны ў часопісе «Полымя» ў 2010 — 2011 гг. Распачаўся ж цыкл пісьменніка-акадэміка яшчэ ў 2009 г. на старонках таго ж выдання раманам з назвай не вельмі мілагучнай — «Уліс з Прускі». І назва, і водгукі крытыкаў «па гарачых слядах» схілілі да ігнаравання і першага, і наступных мастацкіх твораў мэтра літаратуразнаўства. А вось «Валошкі» ўвагу прыцягнулі — у тым ліку часам, які ў рамане па-мастацку асэнсоўваецца, — час, калі Заходняя Беларусь знаходзілася пад Польшчай, каб затым далучыцца да БССР.




Модны ў свеце брытанскі гісторык Норман Дэвіс заклікае сёння даследчыкаў канструяваць мінулае з «чалавечым тварам». Гістарычная навука сапраўды даўно практыкуе такія падыходы, як мікрагісторыя, гістарычная антрапалогія, гісторыя штодзённасці. Беларускі дыскурс тут прыкметна адстае ад заходнееўрапейскага. Аднак у пэўным сэнсе гэтую недастачу кампенсуе мастацкая літаратура. Да перажытага ў XX ст. землякамі-продкамі звярталіся такія майстры, як Янка Брыль, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў… Працягваюць стварась у падобным рэчышчы і сёння. Віктар Гардзей у рамане «Бедна басота» выдатна паказаў, чым жылі пасля вайны жыхары Вялікіх і Малых Круговіч, што на паўночным ускрайку Пінскага Палесся. «Заходнікі» Генрыха Далідовіча сталі знакавай кнігай у айчынным прыгожым пісьменстве.

Раман У. Гніламёдава, уздымаючы ў многім новыя тэмы, добра дапаўняе айчынны гуманітарны дыскурс. Любы пісьменнік у пэўнай ступені таксама даследчык, толькі метады прымяняе мастацкія. А шаноўны акадэмік, з'яўляючыся выбітным літаратуразнаўцам і крытыкам, дэманструе, што па сілах яму не толькі навуковыя даследаванні, але і мастацкія.

Бліскуча і даходліва, з прымяненнем простых пераканальных аргументаў аўтар адлюстроўвае сутнасць таго, што рабілася на яго малой радзіме ў шырокім сацыяльна-палітычным кантэксце: на змену адным чужынцам у 1939-м годзе прыйшлі іншыя. Цікавымі тут атрымаліся разважанні «заходнікаў» пра гэтыя змены: «Але ж і праўда: раней палякі ўсюды сядзелі, цяпер "васточнікі"».

Сёння страчваецца традыцыя пейзажных замалёвак: відаць, інфармацыйная насычанасць іх выцясняе, вымушаючы рабіць твор дынамічным — адпаведна сучасным рытмам. Але ж у мінулым разгортванне жыццёвай панарамы не было такім імклівым — ужо хаця б з гэтай прычыны не варта пазбягаць лірычных адступленняў у гістарычнай прозе вялікай формы, інакш не атрымаецца адпаведнасці ў адлюстраванні духу эпохі і яго рэцэпцыі. У. Гніламёдаў апісвае прыроду прыгожа і жыва. Класічны падыход да стварэння характараў абумовіў наяўнасць у іх і тыповасці, і індывідуальнасці. Не трэба лішні раз і напружвацца, каб зноў пазнаваць аднойчы ўяўлены вобраз. Склад дзеючых асоб у рамане будзе сінанімічны, бадай, для любога заходнебеларускага рэгіёна таго часу.

Выснова, да якой немінуча прыходзіш па прачытанні рамана, — трэба ведаць ранейшыя творы. Да глыбокага аналізу яшчэ звернуцца філолагі. А напрыканцы прапаную некаторыя асноўныя чыннікі таго, чаму эпапея У. Гніламёдава вартая прачытання. Па-першае, чытэльнасць: вытрыманасць стылю і лексікі, адпаведнасць яе прымянення, майстэрства мастацкай дэталі, якое не дае «праскокваць» асобныя месцы. Па-другое, удалае сумяшчэнне розных узроўняў маштабнасці: заходнебеларуская панарама высвечваецца праз прызму «маленькіх людзей» у спалучэнні з аўтарскай пазіцыяй. І, нарэшце, аб'ектыўная суб'ектыўнасць: аўтар адлюстраваў супярэчлівыя падзеі так, як яны адбываліся, перадаў іх успрыманне сучаснікамі, не абмінуў стэрэатыпы таго часу, якія добра характарызуюць і эпоху, і людзей.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# Падарожжа ў юнацтва




Валерый Ліпневіч валодае дзіўным дарам апавядальніка — няспешным, з дакладнымі дэталямі, па якіх у памяці лёгка ўзнаўляць час. Пэўна, таму проза, напісаная 40 гадоў назад, чытаецца цяпер з неаслабным інтарэсам, хоць і не хутка: хочацца, прачытаўшы адзінада раздзелы, адкласці кнігу і працягнуць напісанае.

Нядаўна давялося перачытаць «Дзяўчыну з яблыкам». У свой час нумар часопіса «Студэнцкі мерыдыян», у якім твор быў надрукаваны, было не дастаць. Цяпер — інтэрнэт. Маладая калега ва ўзросце маёй дачкі, прачытаўшы аповесць, сказала: «Няўжо тады, у гады застою, нехта мог пісаць так сучасна?» І яе здзіўленне правамернае: твор напісаны чалавекам абсалютна ўнутрана вольным. І аўтар не толькі піша так — яно было б немагчыма, калі б ён не жыў гэтак жа. Цяжка знайсці каго-небудзь з такой унутранай свабодай — свабодай ад мітусні, пустой пыхі, пагоні за грашыма і поспехам...

У мінулым годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла адной кнігай аповесці Валерыя Ліпневіча «Ева, вярні рабро» і «Дзяўчына пад яблыняй». Пра першую з іх хацелася б сказаць больш.

Аповесць напісаная ў 1973 годзе. Часавая дыстанцыя паміж творам і рэчаіснасцю мінімальная, як і дыстанцыя паміж аўтарам і галоўным героем. Чытаючы, нязменна ловіш сябе на думцы: якія ж шчаслівыя былі гады нашага юнацтва!..

Усур'ёз можна было займацца сваім развіццём: герой-студэнт рэгулярна ходзіць у бібліятэку і праводзіць там лепшы свой час. Працэс самаадукацыі героя не менш, чым яго самога, захапляе і адукоўвае ўважлівага чытача. Цяпер нават не верыцца, што нам была дасяжная падобная раскоша — удасканальваць сябе з задавальненнем! І не толькі інтэлектуальна. Герой рэгулярна ходзіць і ў спартзалу, і ў басейн — натуральна, задарма. Ды і пра грошы ў аповесці ніхто не думае, галоўнае багацце — час, таму ён выдаткоўваецца на самае існае.

Грошы, якія сталі фетышам сучаснасці, дзіўным чынам не мелі значэння ў тым жыцці — маладыя людзі, пра якіх аповесць, сустракаліся, пілі сухое віно і разважалі, і спявалі пад гітару, і, канечне ж, кахалі, бясконца кахалі — гэта і было самым галоўным.

У аповесці В. Ліпневіча павольна і падрабязна прасочваюцца ўсе этапы нараджэння пачуцця ў сэрцы галоўнага героя. Паколькі ён студэнт, падзеі разгортваюцца ў бібліятэцы — у чытальнай зале тагачаснай мінскай Ленінкі. Канечне, у гэтым ёсць некаторая кніжнасць, якой супрацьстаіць найперш жывое пачуццё юнака і вызваліцца ад якой дапамагаюць перажыванні, звязаныя з прыродай, з вёскай, куды герой прыязджае на вакацыі — да дзядулі і бабулі. Дарэчы, у час, калі пісалася аповесць, ужо было зразумела, што гэта апошнія пакаленні вяскоўцаў, якія захавалі мудрасць і натуральнасць ладу жыцця.

Але вернемся да закаханага студэнта, душа якога заваражоная нечаканым пачуццём. Кніжнасць успрыняцця рэчаіснасці перадольваецца пры яго расстанні з дзяўчынай. У іх быў усяго адзін пацалунак — у тралейбусе. І слёзы не столькі даюць палёгку юнаку, колькі разбураюць сцяну паміж ім і сапраўдным жыццём...

Амаль забыты досвед нетаропкага чытання, які вяртае нам проза Валерыя Ліпневіча, дазваляе людзям старэйшага пакалення вярнуцца ў часы юнацтва, дапаўняючы і ўзбагачаючы іх уласнымі ўспамінамі і асацыяцыямі. Што да сучаснага маладога чалавека, то пасля знаёмства з кнігай ён зразумее: тая, чыя маладосць прыйшлася на сямідзясятыя гады, былі дастаткова вольныя ўнутрана. Перадусім — ад меркантыльных і дробязных меркаванняў.

**Любоў ТУРБІНА**

*Нататкі чытача*

# Душа знаходзіць, што шукае

У прадмове да новай кнігі вершаў Алега Салтука «Вяртанне», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор», зазначана, што творчасць гэтага аўтара наскрозь пранізваюць пяшчота і боль. Сардэчнай пяшчотай дыхаюць вершы пра радзіму, малую і вялікую, пра ўсё наскае, пра чалавечае ў чалавеку. З болем піша ён пра тое цёмнае і чужое, што, на жаль, прыйшло разам з тэхнічным прагрэсам, і трывожыцца, каб запаветнае не згубілася дарэшты.




Аўтар непахісна стаіць на сваёй грамадзянскай пазіцыі, праверанай жыццёвым досведам. Паэта абурае людская зняверанасць і абыякавасць (вершы «Натоўп», «Свет гэты цяжка пераробіць», «Адной маліцвай не адолець грэх...»).

У новай кнізе Алег Салтук працягвае, паглыбляе, асэнсоўвае сказанае ім раней: «Не разлюбі Айчыну і Жанчыну, і Род свой, і Народ не разлюбі». Лагічна, што ў новых вершах паэт звяртаецца да вясковай тэматыкі, традыцый:

*Тут праведныя людзі,*
*Быліна, песня, сказ.*
*І самі сабе суддзі*
*Навекі і на час.*

Спагада да ўсяго, сціплыя і кранальныя малюнкі прыроды — гэтым гучыць голас лірыка. Але многія вершы перадаюць і тую напружаную хвіліну маўчання, калі неабходна паверыць у сябе, у кожнага, у «беларускую талаку»:

*...І здзіўляцца зблізку і здаля,*
*Дарагія мае, залатыя,*
*Што адна ў нас такая зямля,*
*Што адны мы на ёй такія.*

Кожны паэт піша пра каханне і любоў да жанчыны — сястры, сяброўкі, маці. Лірычныя вершы Алега Салтука гранічна шчырыя («Удзячнасць», «Вяртанне», «Ты маладая і я малады», «Сустрэча» і многія іншыя). Цытаваць не выпадае, бо такія вершы — як вянок: скрані адну-дзве кветкі — і ён рассыплецца. Але тонкі лірызм не перашкаджае патрыятычнаму запалу. Паэт душою памятае нашае мінулае, таму такое трывожнае пачуццё нараджаюць у чытача вершы на тэму апошняй, блізкай да года нараджэння паэта, вайны (тут адметны твор «Даўняе»).

У «Вяртанні» аўтар з сарказмам выказваецца пра духоўную дэградацыю, прадажнасць тых, хто зрабіў мастацтва сродкам спажывы («Навіны», «Перагледжаны фільмы старыя...» і інш.). Дарэчы, не пазбягае аўтар і самаіроніі.

Спавядальная лірыка і грамадзянскі пафас, жывая думка і адкрытасць пачуццяў аб'ядноўваюць розныя бакі творчасці Алега Салтука. У новай кнізе шматгадовая, усхваляваная гаворка з чытачом наноў выяўляе сілу ўзнёслага слова.

**Ілона КАВАЛЁВА**

# Прыроды хараство

Выпускніца філалагічнага факультэта БДУ Галіна Шылкіна мае педагагічны досвед: працавала ў школе і дзіцячым садку. Яна выдатна ведае, чым можна прывабіць дзіцячую ўвагу. Новы зборнік вершаў Галіны Шылкінай «Заечая навука» не так даўно выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда».

Кніга «адчыняе» дзверы ў школу, дзе галоўным прадметам лічыцца ўменне пашырыць светапогляд, уявіць, як вершаваныя радкі могуць паўплываць на станаўленне асобы. Хто сказаў, што «жывы» транспарт не мае душы? Ён не толькі выконвае функцыю перамяшчэння, але і ведае, што такое жыццё і якія людзі могуць сустрэцца на шляху. А яшчэ ён мае здольнасць адчуваць і любіць.

Як мы ставімся да змен у прыродзе? Не любім восень, калі няспынна ідуць дажджы; зіму, калі жудасна холадна; вясну, калі сыходзіць снег і шмат бруду; лета, калі вельмі спякотна. Мы заўважаем толькі тое, што так ці інакш прыносіць непрыемнасці. Чаму б разам з Галінай Шылкінай не зірнуць на ўсё з іншага пункту гледжання, зразумець, што восень дорыць прыгожыя фарбы, зіма — снег, па якім можна пакатацца на санках, а потым удумліва тупаць і чуць, як храбусцяць пад нагамі льдзінкі, вясна — водар кветак і раслін, лета — грыбы ды ягады...

Якія таямніцы хаваюцца ў звычайных на першы погляд рэчах, што дае нам прырода? Адказы — у кнізе «Заечая навука» Галіны Шылкінай.

**Наталля УСЕНКА**

# Іван Роўда:
# «Да нас прыходзяць не толькі па дыплом, але і па веды»

**У газеце «Савецкая Беларусь» ад 21 ліпеня 1939 г. было апублікавана паведамленне пра стварэнне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце самастойнага філалагічнага факультэта з двума аддзяленнямі: беларускай мовы і літаратуры, а таксама рускай мовы і літаратуры. Святочныя мерапрыемствы да 75-годдзя філалагічнага факультэта распачаліся яшчэ ў верасні. Пра супольныя дасягненні, жыццё факультэта, асобныя змены ў навучальным працэсе распавядае дэкан Іван Роўда.**




*Фота Кастуся Дробава*

— Наш факультэт адлічвае 75 год з дня заснавання, хоць мы маглі б называць і больш сур'ёзную дату. Адлік вядзём з 1939 г., калі ў БДУ з'явіўся факультэт з назвай філалагічны. А ўніверсітэт быў заснаваны ў 1921 г., і ўжо з першых гадоў існавання выкладаліся мовы і літаратуры. Спачатку на этнолага-лінгвістычным аддзяленні факультэта грамадскіх навук. Праз два гады яно было пераўтворана ў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта, які тады існаваў ва ўніверсітэце. Ужо ў 1923 г. на працу ва ўніверсітэт прыйшоў Якуб Колас, пра што сведчыць заява, якая ёсць у нашым музеі. У 1926 г. была праведзена першая Усебеларуская літаратурна-лінгвістычная канферэнцыя. Мы знайшлі цікавы інфармацыйны ліст з запрашэннем на гэта мерапрыемства. Там пазначана, што ўдзельнікам прапануецца інтэрнат, але з сабой трэба ўзяць... падушкі і іншыя пасцельныя прылады.

Цяпер патрабуецца электронны варыянт на флэшцы ці кампакт-дыску. Мы выкарыстоўваем такія словы, якіх раней у лексіконе не было…

Філалагічнаму факультэту ёсць кім і чым ганарыцца: у свой час універсітэт закончылі П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва, Р. Барадулін. Можна доўга пералічваць вядомых людзей нашай краіны — некаторыя тут вучыліся, некаторыя працавалі. І сёння ў нас у штаце выдатныя спецыялісты, якія рыхтуюць падручнікі для школ і вышэйшых навучальных устаноў, супрацоўнічаюць з навукоўцамі іншых краін свету.

**— Іван Сямёнавіч, што падаецца вам асабліва значным з усяго зробленага на пасадзе дэкана?**

— З дапамогай факультэта беларускую мову і літаратуру сёння вывучаюць за межамі рэспублікі. І гэта вялікае дасягненне! Беларуская мова выкладаецца ва Украіне, Сербіі, Славакіі, Германіі, Польшчы. Там працуюць нашы выпускнікі і выкладчыкі. Пры падтрымцы пасольстваў розных краін мы адкрылі 12 вучэбных кабінетаў, абсталяваных усёй неабходнай тэхнікай, з метадычнай літаратурай па нашым профілі. Так, у Кіеве, у Нацыянальным кіеўскім універсітэце, ёсць цэнтр беларусазнаўства, вядзецца набор студэнтаў па спецыяльнасці «Беларуская філалогія».

**— Якія змены адбыліся апошнім часам у праграме навучання студэнтаў-філолагаў?**

— У адпаведнасці з патрабаваннямі часу былі ўведзены новыя напрамкі на класічных спецыяльнасцях. Напрыклад, на спецыяльнасцях рускай і беларускай філалогіі — літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць, дзелавая камунікацыя, камп'ютарная лінгвістыка. Нашы выпускнікі маюць магчымасць займацца педагагічнай дзейнасцю, але ў дадатак атрымліваюць прыкладную спецыяльнасць, якая пазначаецца ў дыпломе. Яны працуюць не толькі ва ўстановах сярэдняй, вышэйшай адукацыі, але і ў друкаваных СМІ, на тэлебачанні, у рэкламных агенцтвах... Філалагічны факультэт дае глыбокую, грунтоўную гуманітарную адукацыю, і можна ўпэўнена казаць, што нашых выпускнікоў можна сустрэць ва ўсіх сферах гуманітарнай дзейнасці.

**— Вядома, што сённяшнія першакурснікі будуць навучацца ўжо чатыры гады…**

— Так, гадзіны скараціліся, але ў асноўным за кошт няпрофільных дысцыплін. Таму змен у падрыхтоўцы спецыялістаў не будзе. І дыпломы выпускнікі атрымаюць такія самыя, як іх папярэднікі. Дарэчы, скарачэнне адбылося толькі на аддзяленні рускай, беларускай, славянскай філалогіі, а там, дзе вывучаецца некалькі замежных моў (рамана-германская, кітайская філалогія), працягласць навучання не змянілася. Але калі раней студэнты вучыліся на першай ступені пяць гадоў, а на другой ступені — год, то цяпер навучанне ў магістратуры будзе доўжыцца два гады і стане больш мэтанакіраваным, студэнты будуць атрымліваць веды ў канкрэтным напрамку.

**— Колькі бюджэтных месцаў у двухгадовую магістратуру прапануюць выпускнікам?**

— Гэта я таксама хацеў бы ведаць, але Міністэрства адукацыі пакуль нічога не паведамляла, бо на такіх умовах мы працуем толькі другі год. Вядома, хацелася б, каб гэтых месцаў было як мага больш. Сёння выпускнікі могуць паступаць у магістратуру не толькі на дзённую, але і на завочную альбо на платную форму навучання, прычым вучыцца прыходзяць не толькі нашы былыя студэнты, але і выпускнікі іншых ВНУ — лінгвістычнага, педагагічнага ўніверсітэтаў.

**— Зменшыўся час навучання, але ці скараціліся пры гэтым спісы літаратуры?**

— Аднойчы мы ўздымалі гэта пытанне на вучэбным савеце, бо студэнты скардзіліся, што спісы вялікія, трэба іх перагледзець. Сярод членаў савета і некалькі студэнтаў. Разглядаем гэту праблему, адзін з іх і кажа: «Не, нам мала літаратуры!» Розныя думкі. Калі студэнт больш-менш чытае, гэта вызначае агульную адукаванасць, шырыню ведаў. Філалогія — вывучэнне мовы, літаратуры праз прызму культуры свайго народа, праз зварот да фальклору, гісторыі мовы, гісторыі краіны.

**— Кажуць, што колькасць абітурыентаў, якія паступаюць на аддзяленне беларускай філалогіі, з цягам часу скарачаецца…**

— На жаль, прыём на беларускую філалогію сапраўды скараціўся. Калі казаць пра бюджэтную форму навучання, то на французскую, нямецкую, італьянскую, кітайскую, класічную філалогію мы набіраем па 10 чалавек, на беларускую — 20, на рускую і англійскую — 35. Ад 10 да 15 бюджэтных месцаў прапануецца тым, хто хоча паступіць на славянскую філалогію — з беларускай ці рускай асновай. 165 бюджэтных месцаў — лічба высокая ў параўнанні з іншымі факультэтамі!

Каб прывабіць абітурыентаў, праводзім прафарыентацыйную працу — расказваем пра факультэт, новыя напрамкі ў навучанні. Хацелася б, каб нашы намаганні былі падтрыманы і іншымі арганізацыямі. Чаму б не зрабіць так, каб паступленне на рускую і беларускую філалогію адбывалася на ўмовах, прынятых у педагагічным універсітэце, дзе на адпаведныя спецыяльнасці выпускнікі-медалісты паступаюць без экзаменаў? Мы ж таксама выпускаем будучых настаўнікаў!

Яшчэ адна задума. Кожны год праходзяць рэспубліканскія алімпіяды па беларускай і рускай мовах. Гэта добра. Але пераможцы алімпіяды могуць паступаць на любыя спецыяльнасці, і далёка не ўсе абіраюць філалогію. Хацелася б праводзіць адмысловую алімпіяду на базе нашага ўніверсітэта для здольных выпускнікоў, якія потым могуць паступаць без экзаменаў — неабавязкова да нас, а на любы філалагічны факультэт краіны. Заўважу, што гаворка ідзе пра спецыяльнасці, якія непасрэдна звязаны з дзяржаўнымі мовамі Беларусі, з важнейшымі складнікамі культуры. Гэта быў бы адбор таленавітых будучых педагогаў, лінгвістаў, літаратуразнаўцаў, якія б з зацікаўленасцю вучыліся на філфаку, а пасля перадавалі веды. Раней такія алімпіяды праводзіліся, цяпер, на жаль, не…

**— Іван Сямёнавіч, што падаецца вам самым галоўным у вашай працы?**

— Вядома, дэкан мае пералік функцыянальных абавязкаў, але немагчыма ўсю працу, усё жыццё факультэта сціснуць да пастаноў, рэзалюцый, загадаў. Калі чалавек творчы, ведае патрабаванні часу, улічвае пажаданні студэнтаў, ён будзе знаходзіць такія формы працы, якія дапамагалі б развіццю факультэта. Важна, каб студэнты з цікавасцю хадзілі на заняткі і каб выкладчыкі былі задаволены студэнтамі. Тады факультэт будзе цэласным, здаровым арганізмам!

**— Як змяніліся выкладчыкі і студэнты з часоў вашай вучобы ва ўніверсітэце?**

— Змяніліся не столькі людзі, колькі формы навучання. З'явіўся камп'ютар — добры сродак перадачы ведаў студэнтам, прынадны адначасова і для кантролю іх паспяховасці. Адносіны да працы з боку выкладчыкаў, мне здаецца, павінны быць заўсёды аднолькавыя: трэба ісці на заняткі з выдатнымі ведамі і перадаваць іх аўдыторыі. Гэты прынцып не змяняецца на працягу дзесяцігоддзяў. Студэнты ж сталі больш прагматычнымі, практычнымі. Калі я быў абітурыентам, то меў адну задачу: паступіць у БДУ. І ніхто з майго пакалення асабліва не думаў, што будзе праз пяць год. А цяпер на сустрэчах з будучымі студэнтамі заўсёды гучаць пытанні: дзе мы будзем працаваць, колькі будзем зарабляць, ці магчыма паехаць за мяжу, якія кантакты ў факультэта з іншымі ўніверсітэтамі свету? І мы разумеем, што трэба працаваць, адкрываць новыя спецыяльнасці, наладжваць стасункі з ВНУ іншых краін. Нашы студэнты выязджаюць на стажыроўкі ў замежныя ўніверсітэты. У нас працуюць выкладчыкі з іншых краін ( Італіі, Славакіі, Польшчы, Кітая), бо, вывучаючы замежную мову, пажадана чуць мову носьбітаў. На кітайскім аддзяленні на кожным курсе працуе адзін наш і адзін кітайскі выкладчык. І вынікі добрыя, бо студэнты перамагаюць на рэспубліканскім конкурсе кітайскай мовы, выязджаюць у Пекін на міжнародную алімпіяду.

**— Як ставяцца на факультэце да крэатыўных ідэй з боку студэнтаў?**

— Я з радасцю ўспрымаю творчую моладзь і цікавыя прапановы. Як прыклад, мы не навязваем свае культурныя мерапрыемствы — студэнты самі прыходзяць і прапануюць штосьці правесці. Апошнім часам з арганізацыяй свят, гульняў, вечарын дапамагаюць не выкладчыкі ці куратары груп, а студэнты старэйшых курсаў. Так нават лепш, бо студэнты знаёмыя між сабой, старэйшыя маюць свой досвед. З надаўніх свят — турзлёт на Мінскім моры, дзе студэнты кожнай групы прадстаўлялі сябе, а таксама традыцыйную «Візітку першакурсніка».

Для выпускнікоў школ мы ладзім цікавы конкурс, да якога вучні пішуць творчыя працы. Мы выбіраем лепшыя, запрашаем аўтараў на факультэт, уручаем ім узнагароды і такім чынам знаёмім з нашай навучальнай установай.

Падтрымліваем таксама сувязь са сваімі выпускнікамі: яны, напрыклад, уваходзяць у склад журы на нашых конкурсах, святах, і калі мы ведаем, што могуць дапамагчы па іншых пытаннях, абавязкова звяртаемся да іх.

**— Кажуць, што ў еўрапейскіх універсітэтах выкладчыкі больш імкнуцца да поспеху ў студэнцкай аўдыторыі, студэнты маюць больш магчымасцей уплываць на навучальны працэс...**

— У нас заўсёды ёсць зваротная сувязь са студэнтамі: мы праводзім адмысловае тэсціраванне, дзе студэнты ацэньваць працу выкладчыкаў, пазначаюць свае прапановы. Часам студэнты ў пісьмовай форме выказваюць пажаданні альбо прыходзяць да мяне, да намеснікаў дэкана, каб расказаць, як можна палепшыць працу факультэта. Мы заўсёды ідзём насустрач, улічваем заўвагі!

Факультэт чакае абітурыентаў, якія збіраюцца цікава і карысна правесці гады студэнцкага жыцця. Прыемна, што два гады запар філалагічны быў прызнаны самым творчым факультэтам універсітэта!

**— Якія самыя запамінальныя падзеі можаце прыгадаць за час працы на пасадзе дэкана?**

— Мы пачалі грунтоўна займацца гісторыяй свайго факультэта. Да мінулага юбілею выдалі кнігу пра яго гісторыю і сучаснасць, хутка пабачыць свет новая кніга. Я невыпадкова адзначаю гэты факт як важную падзею, бо, як пісаў І. Мележ, «толькі тады, калі мы будзем ведаць, адкуль мы, якімі былі, мы можам ведаць, хто мы. Ведаць цану сабе, свайму жыццю». Мы можам ганарыцца і тым, што ўпершыню ў нашай краіне выходзіць 25-томны збор твораў У. Караткевіча, на першых сямі тамах якога ў якасці грыфа чытаем: «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Філалагічны факультэт».

Запамінальнымі бываюць і сустрэчы з людзьмі, у прыватнасці са студэнтамі. Часам да мяне завітваюць узрушаныя першакурснікі: «Я хачу з першых дзён вучобы займацца навукай, як мне гэта зрабіць?» Заўсёды прыемна здзіўляюць і натхняюць такія асобы — з іх абавязкова будзе карысць, яны шмат чаго дасягнуць у жыцці. У наш час студэнты прыходзяць не толькі па дыплом, але і па веды, якія патрэбны, каб уладкавацца на добрую працу. Калі чалавек адукаваны і дасведчаны, працу ён абавязкова знойдзе. Можна сказаць, што праца знойдзе яго сама!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Прэзентацыя*

# Адказ на цяжкія пытанні

Легендарная «Кніжка пра смерць» шведскай пісьменніцы і мастачкі Пэрнілы Стальфэльт выйшла ў перакладзе на беларускую мову. Тэкст перастварыў Казімер Сольц, у якасці выдаўца праекта выступіў Зміцер Колас.




Нехта з бацькоў адразу катэгарычна скажа, што ні ў якім разе такую кнігу не набудзе. Маўляў, мама і тата лепш, чым кніжкі, могуць паразумецца з дзецьмі ў становішчы, калі сям'я страціла кагосьці блізкага. Але ці не надта самаўпэўнена так лічыць? Смерць сваяка, знаёмага, кацяняці ці нават матылька можа выклікаць шмат пытанняў у малога. Што адбываецца пасля смерці? Што робіцца з чалавекам ці жывёлай, калі яны паміраюць? Як можна ўшанаваць чыюсьці памяць?

І калі вы цалкам упэўненыя, што здолееце лагічна і паслядоўна адказаць на ўвесь вадаспад пытанняў, а галоўнае — не забыцца на гэтыя адказы і ўвесь час трымацца адной лініі сюжэта, то, натуральна, вам кніга Пэрнілы Стальфэльт зусім не патрэбная. Але калі вы схільныя прыслухоўвацца да меркавання прафесійнага педагога і не хочаце кожны раз прыдумваць новыя версіі, куды хто трапіў пасля смерці, то выданне, пра якое ідзе гаворка, безумоўна, дапаможа.

Гісторыя гэтага праекта распачалася ў 1999 годзе. Тады шведская дзіцячая пісьменніца, мастачка, педагог Пэрніла Стальфэльт па заказе Міністэрства адукацыі Швецыі напісала кнігу «Аднаго поля ягады» — пра тое, што ўсе людзі розныя, але роўныя ў правах і аднолькава вартыя павагі. У Швецыі гэтая кніга стала амаль вучэбным дапаможнікам па талерантнасці для пачатковых класаў, а на яе вокладцы нават друкавалася спрошчаная вытрымка з Канвенцыі ААН аб правах дзіцяці. У гэтым жа годзе выйшла і «Кніжка пра смерць», якая фактычна распачала серыю выданняў пра псіхалогію і фізіялогію людзей. Следам з'явіліся «Кніжка пра валасы», «Кніжка пра каханне», «Кніжка пра насілле», «Кніжка пра страшылкі»... Жаданне распавядаць пра не зусім дзіцячыя рэчы сама пісьменніца ў адным з інтэрв'ю патлумачыла так:

— Дзеці маюць здольнасць прымаць тое, што адбываецца ў жыцці. І нярэдка прыходзяць да высновы, што гэта жудасна цікава. Таму мне падаецца, што дарослым варта не супярэчыць цікаўнасці малога, а, наадварот, падтрымліваць яго інтарэс і адказваць на ўсе пытанні, нават калі тэма ў іх саміх выклікае супярэчлівыя і нават балючыя пачуцці… Дзіця нараджаецца ў свет, дзе ёсць усё: жорсткасць, радасць, журба, прыгожае і выродлівае, а таму было б дзіўна рабіць выгляд, што малы існуе па-за гэтым светам.

Але вернемся менавіта да «Кніжкі пра смерць», якая распавядае, што такое смерць і чаму людзі паміраюць. У ліку відавочных пераваг выдання — мноства ілюстрацый, якія імітуюць дзіцячыя малюнкі, а таксама мова аповеду, простая, без складаных, незразумелых для дзіцяці разваг і слоў. Акрамя таго, моцны і культуралагічны грунт тэксту, падаючга розныя пункты гледжання і неаднолькавыя адказы на адно і тое ж пытанне.

Яшчэ з часоў Астрыд Ліндгрэн шведскія пісьменнікі прытрымліваюцца меркавання, што з дзецьмі варта размаўляць на такія ж сур'ёзныя тэмы, што і з дарослымі, і абмяркоўваць розныя аспекты жыцця. І «Кніжка пра смерць» — адзін з выдатных прыкладаў, як можна весці гаворку пра такія, бадай, самыя балючыя рэчы, як страта родных людзей. Ды змест 26 старонак кнігі нельга назваць адно сумным і трагічным. Ёсць тут і добрыя, цёплыя адказы для дзяцей. Да прыкладу, малыя даведаюцца, што пасля смерці дзядуля можа ператварыцца ў кветку ці дрэва, стаць птушкай, анёлам ці воблакам і працягваць жыць побач. А памяць пра памерлых можна ўшанаваць не толькі падчас візіту на могілкі, але і проста з'еўшы любімае марожанае бабулі, якая ўжо ў лепшым свеце.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Жыццяпіс старажытнага Лукомля

Якаснай гістарычнай літаратуры ў нас выдаецца няшмат. Гэты факт з'яўляецца сёння агульнапрызнаным, часта абмяркоўваецца, аднак нейкім чынам змяніць такую сітуацыю пакуль, на жаль, не атрымліваецца. Таму выхад кожнага новага гістарычнага выдання становіцца падзеяй і прыцягвае пільную ўвагу з боку не толькі спецыялістаў, але і дастаткова шырокіх колаў грамадскасці. Асабліва гэта датычыць прац, выдадзеных вядомымі спецыялістамі.

Сказанае ў поўнай меры адносіцца да кнігі аднаго з патрыярхаў айчыннай гістарычнай навукі, доктара гістарычных навук, прафесара Георгія Васільевіча Штыхава «Лукомль: археалагічны комплекс жалезнага веку і сярэднявечча», што не так даўно пабачыла свет у Выдавецкім доме «Беларуская навука». Нягледзячы на адносна невялікі аб'ём (усяго 167 старонак), кніга прадстаўляе грунтоўны аналіз вынікаў шматгадовых даследаванняў аднаго з найстаражытнейшых гарадоў Беларускага Падзвіння (сёння вёска ў Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці). Гэтыя даследаванні праводзіліся Г. В. Штыхавым у 1966 — 1969, 1971, 1973 — 1974 гадах і дазволілі атрымаць надзвычай цікавыя матэрыялы для рэканструкцыі жыцця і побыту старажытнага насельніцтва Лукомля і Полацкай зямлі ў цэлым.

Манаграфія Георгія Васільевіча вылучаецца лагічнасцю структуры, лаканічнасцю і прастатой падачы матэрыялаў, што ні ў якім выпадку не змяншае навуковых вартасцей тэксту. Аўтар паслядоўна аналізуе дадзеныя пісьмовых крыніц пра Лукомль і яго ўладальнікаў, матэрыялы раскопак Лукомльскага гарадзішча, селішчаў, вынікі даследаванняў суседніх курганных могільнікаў — могілак жыхароў Лукомля і навакольнага сельскага насельніцтва ды скарбы, знойдзеныя ў ваколіцах горада. Тэкст суправаджаецца шматлікімі ілюстрацыямі — фотаздымкамі і малюнкамі артэфактаў, знойдзеных пасля раскопак.

У выніку комплекснага аналізу пісьмовых і археалагічных крыніц аўтар прапануе ўласную рэканструкцыю гісторыі старажытнага Лукомля. Першыя жыхары пасяліліся на Лукомльскім гарадзішчы на мяжы нашай эры. Гэта былі балты — носьбіты днепра-дзвінскай археалагічнай культуры. У другой чвэрці І тысячагоддзя нашай эры сюды праніклі перасяленцы кіеўскай культуры, якіх большасць сучасных даследчыкаў лічыць славянамі. У трэцяй чвэрці І тысячагоддзя гарадзішча засялялі носьбіты банцараўскай культуры. У апошніх стагоддзях І тысячагоддзя Лукомль становіцца адным з умацаваных цэнтраў летапісных крывічоў, якія пакінулі па сабе так званую археалагічную культуру смаленска-полацкіх доўгіх курганоў.

Паводле абгрунтаванага меркавання Г. В. Штыхава, у сярэдзіне Х стагоддзя Лукомль становіцца адным з гарадскіх цэнтраў Полацкага княства, уладу ў якім у гэты час бярэ ў свае рукі першы вядомы нам з летапісаў князь Рагвалод. У ХІ — ХІІІ стагоддзях Лукомль




быў адной з полацкіх крэпасцей, якая ўпершыню згадваецца ў летапісе ў 1078 годзе ў сувязі з канфліктам паміж Усяславам Чарадзеем і Уладзімірам Манамахам. У пачатку XIV стагоддзя Лукомль, верагодна, разам з Полацкам увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага.

Нягледзячы на тое, што кніга Г. В. Штыхава з'яўляецца навуковым выданнем, яна напісана простай і даступнай мовай і можа быць цікавай самай шырокай чытацкай аўдыторыі. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што новая манаграфія Георгія Васільевіча Штыхава «Лукомль: археалагічны комплекс жалезнага веку і сярэднявечча» арганічна сумяшчае вартасці высакаякаснага навуковага выдання і пазнавальнага для аматараў гісторыі тэксту.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

*Кола чытання*

# Пад гукі цымбалаў

Зборнік лірыкі паэтэсы і празаіка Ірыны Тулупавай «Чую і адгукаюся…» быў прэзентаваны ў сталічнай бібліятэцы № 21. Загадчыца бібліятэкі Нэлі Казак распавяла пра кнігі серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі». Старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў адзначыў, што выпускам кніг СПБ займаюцца многія айчынныя выдавецтвы, у тым ліку і недзяржаўныя.

Новая кніга Ірыны Тулупавай (рэдактар выдання і аўтар прадмовы — Віктар Гардзей) пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». На прэзентацыю завіталі калегі пісьменніцы па пяры: Іна Фралова, Валерый Чудаў, Аліна Легастаева, Анастасія Кузьмічова, Яна Явіч. Павіншавалі І. Тулупаву і ўзорны ансамбль цымбалістаў «Калейдаскоп» СШ № 159 пад кіраўніцтвам Ліліі Новік.

Аўтар прэзентаванай кнігі скончыла журфак БДУ, працавала на радыё, у Дзяржкамітэце па друку, у рэдакцыях часопіса «Гаспадыня» і газеты «Літаратура і мастацтва». І. Тулупава — член СПБ і Беларускага саюза журналістаў, аўтар празаічнага зборніка «Шчасце на парозе тваім». На імпрэзе гучалі вершы творцы ў аўтарскім выкананні, а таксама аўдыязапіс песні на яе верш «Музыка граў на цымбалах» (выканаўца і аўтар музыкі — кампазітар Алег Елісеенкаў).

**Арына КРАЙКО**

# На Парнасе

Андрэй Цяўлоўскі — таленавіты малады паэт і перакладчык. Піша на беларускай і рускай мовах. Перастварае паэзію і прозу. Працуе дацэнтам БНТУ, дзе кіруе літаб'яднаннем «Полистих». Кандыдат тэхнічных навук, падрыхтаваў доктарскую дысертацыю.

Менавіта ён быў у цэнтры ўвагі на чарговым творчым мерапрыемстве ў паэтычным клубе «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5, якім апякуецца Мінскае гарадское аддзяленне СПБ. Паэт і даследчык падзяліўся творчымі і навуковымі планамі, прачытаў свае вершы, а таксама пераклады вершаў Міхася Башлакова і Змітрака Марозава на рускую мову, адказаў на пытанні студэнтаў будаўніча-архітэктурнага каледжа, запрошаных на сустрэчу.

Пра сучасны літаратурны працэс, жыццё сталічнай пісьменніцкай арганізацыі распавёў яе старшыня і кіраўнік клуба паэт Міхась Пазнякоў, які прачытаў і некалькі літаратурных пародый на калег па паэтычным цэху. Выступілі з вершамі паэты Валерый Максімовіч і Вольга Шпакевіч.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Як пазбавіцца адзіноты?

**Што такое сапраўдная адзінота? Як пазбавіцца ад гэтага пачуцця, знайсці водгук у іншых? Адказы на гэтыя пытанні — у прэм'ерным спектаклі «Гаральд і Мод» Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.**

Пастаноўку самай вядомай п'есы амерыканскага драматурга, сцэнарыста і кінарэжысёра аўстралійскага паходжання Коліна Хігцінса на віцебскай сцэне ажыццявіў мастацкі кіраўнік Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Уладзімір Савіцкі. Гэта не першы досвед працы рэжысёра з коласаўскай трупай: ён паставіў у Віцебску «Ветрагоны» Уладзіслава Галубка і «Апошнія сведкі» Святланы Алексіевіч.

Гісторыя пра адзіноту ў інтэрпрэтацыі Уладзіміра Савіцкага ператварылася ў лірычную камедыю пра маладога чалавека Гаральда Чэйзана і яго спосабы выражэння свайго «я». Занепакоеная юнацкімі, бунтарскімі выбрыкамі сына, маці спрабуе знайсці яму нявесту. А Гаральд тым часам знаёміцца з дзіўнаватай, адзінокай дамай Мод, якая таксама не жадае быць як усе. Яе шчырыя ўчынкі і бясконцая любоў да жыцця захапляе маладога



*Фота з архіва НАДТ імя Якуба Коласа*

*Сцэна са спектакля «Гаральд і Мод».*

чалавека. Мод адкрывае Гаральду новы свет прыгажосці і радасці.

— Кожны жыве пад замком, але можна расчыніць вокны, апусціць пад'ёмны мост, выйсці, убачыць іншых, агледзецца, паляцець! О, як жа гэта цудоўна — пераскочыць цераз сцяну і спаць пад вольным небам! — кажа Мод.

Пастаноўка адбываецца на сцэне, якая круціцца. Дзеянне суправаджаецца харэаграфічнымі нумарамі пад акампанемент раяля. Яркія дэкарацыі і касцюмы, танцы і музыка ў жывым выкананні ствараюць выключна пазітыўную атмасферу, прасякнутую лірычнасцю, рамантыкай і вострым гумарам.

Галоўныя ролі ў спектаклі выконваюць Яўген Бераснеў і Галіна Букаціна, таксама задзейнічаны ў пастаноўцы Анжаліка Баркоўская, Вольга Куляшова, Георгій Лойка, Вячаслаў Грушоў, Пётр Ламан, Анастасія Чыстабаева і інш.



*Сцэна са спектакля «Гаральд і Мод».*

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Мелодыі з архіва

Прэзентацыя ўнікальнай музычнай калекцыі з фондаў Белтэлерадыёкампаніі «Музычны скарб Беларусі», выпуск якой прымеркавана да Дня беларускага радыё, днямі прайшла ў Белдзяржфілармоніі.

Збор дыскаў прадставіў гледачам Андрэй Мукавозчык, дырэктар дырэкцыі фондавых матэрыялаў Белтэлерадыёкампаніі, кіраўнік праекта. Падчас святочнага канцэрта сваімі меркаваннямі наконт прэзентаванай калекцыі ў тэлеэфіры падзяліліся мастацкі кіраўнік ансамбля народнай музыкі «Бяседа» Леанід Захлеўны, кампазітары Валерый Жывалеўскі, Галіна Гарэлава, Эдуард Ханок, прафесар Беларускай акадэміі музыкі Міхаіл Фінберг і іншыя выбітныя айчынныя музычныя дзеячы.

Перад гледачамі выступілі Пётр Ялфімаў, Дзяржаўны ансамбль трубачоў «Інтрада», вакальныя групы «Чысты голас» і «Камерата», ансамбль старажытнай музыкі «Кантабіле», музыканты Віктар Кісцень (арган) і Сяргей Махаў (флейта). Публіцы былі прадстаўлены і архіўныя запісы ансамбля «Песняры» («Ой, рана на Івана»), Анатоля Ярмоленкі («Два полі»), Зіновія Бабія (арыя Рыгалета з аднайменнай оперы Дж. Вердзі), Тамары Раеўскай («Мой милый, если б не было войны»), фрагмента балета «Маленькі прынц» (музыка Яўгена Глебава) з фондаў Белтэлерадыёкампаніі. А фінальным акордам канцэрта стаў запіс песні Уладзіміра Мулявіна «Мая малітва». Дарэчы, у зале прысутнічала і ўдава Уладзіміра Георгіевіча — Святлана Пенкіна.

**Яна ЯВІЧ**

# Дарогу маладым!

Арт-пляцоўка класічнага і сучаснага мастацтва «Галерэя ДК» (гасцініца «Вікторыя Алімп») дорыць магчымасць зазірнуць у хатнюю калекцыю жывапісу маладых беларускіх мастакоў Таццяны і Валерыя Патворавых.

У экспазіцыю выстаўкі «З хатняй калекцыі» ўвайшлі любімыя працы аўтараў, напісаныя за апошнія некалькі гадоў. Некаторыя палотны ўжо не раз экспанаваліся ў Беларусі і за мяжой, але большая частка работ будзе прадстаўлена гледачам упершыню.

Карціны мастакоў звяртаюць на сябе ўвагу ўжо вядомай іх прыхільнікам маляўнічай манерай, магутнай энергетыкай, пазітыўным і шчырым успрыманнем свету. Любоў Патворавых дазваляе здзейсніць займальную вандроўку па гарадах Беларусі, Расіі, Польшчы, Францыі, Італіі. Кожная праца — зафіксаваны на палатне яркі і эмацыянальны аповед з жыцця мастакоў.

Заснежаны Піцер, Ніжагародскія цэрквы, сонечныя берагі Італіі, Парыжскія агні, кірмашовы дзень у Кобрыне... Правінцыяльная архітэктура і сталічныя праспекты, вытрыманыя ў строгасці бульвары і ўтульныя дворыкі — усё гэта творцы спрабуюць перакласці на мову жывапісу. Выразна адчуваецца пошук незвычайных ракурсаў, эксперыменты, эмацыянальная і экспрэсіўная манера пісьма. Маладыя мастакі Патворавы ўжо паспелі заваяваць прызнанне і любоў гледачоў. Галерысты бачаць у гэтай пары перспектыўных жывапісцаў.



*Прыстань у Ялце. Раніца. 2008.*

**Ганна ШЫМУК**

# Над Дзвіной

Віцебск вядомы ў свеце па мастацкай школе, якая склалася яшчэ ў мінулым стагоддзі. Яе традыцыі годна працягвае не адно пакаленне педагогаў-мастакоў, выпускнікоў і студэнтаў мастацка-графічнага факультэта ВДУ імя П. М. Машэрава. Яшчэ адно сведчанне таму — выстаўка «Зберагаем. Творым. Ствараем», якая адкрылася ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі з нагоды 55-годдзя мастацка-графічнага факультэта. Тут прадстаўлены лепшыя за апошнія 25 гадоў дыпломныя работы па графіцы, жывапісе, дэкаратыўнай пластыцы, кераміцы, дызайне і тэкстылі.

А ў выставачнай зале факультэта распачалася юбілейная выстаўка дацэнта кафедры выяўленчага мастацтва Мікалая Шкута. На працягу многіх гадоў Мікалай Мікалаевіч адданы акварэлі. Яго працы можна пабачыць у Віцебскай карціннай галерэі, яны экспанаваліся ў Польшчы, Германіі, Англіі... Творы адметныя сакавітай каляровай гамай, прасякнуты любоўю да Віцебшчыны, да Беларусі.

Павіншаваць майстра з 70-годдзем і адкрыццём выстаўкі прыйшлі студэнты, калегі, сябры. Экспазіцыю складаюць у асноўным пейзажы і нацюрморты апошніх гадоў. У мастака няма асаблівых прыхільнасцей — ён піша прыроду ў розныя поры года і часта звяртаецца да складаных пераходных станаў: ранняй вясны, калі снег іскрыцца ў промнях сакавіцкага сонца, або позняй восені, калі колеры ўжо гаснуць і страчваюць сваю яркасць, а рух паветра быццам заміраe. Улюбёны прыём — высокі гарызонт, глыбокая паветраная перспектыва.

Светлыя летнія пейзажы «Лясное возера», «Возера Лосвіда», «Над Дзвіной» напоўнены пахам траў і палявых кветак, радасцю жыцця. Не менш цікавыя і зімовыя пейзажы: «Зімовы пейзаж», «Выпаў снег», «У зімовым лесе».

Акварэль — галоўнае ў жыцці Мікалая Мікалаевіча, але ён умее паспяхова спалучаць як творчасць, так і навукова-педагагічную дзейнасць. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва перадае свой багаты досвед студэнтам, актыўна ўдзельнічае ў розных выстаўках, пленэрах і навукова-практычных канферэнцыях, піша навуковыя артыкулы і вучэбна-метадычныя дапаможнікі.

**Фёдар ШКІРАНДА**

# Яе вандроўны пэндзаль



Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва прапануе ўвазе гледачоў экспазіцыю работ Ганны Гадзіравай «Палітра падарожжаў».

Ганна Гадзірава — вандроўны майстар пэндзля. На выстаўцы з сімвалічнай назвай прадстаўлены, галоўным чынам, яе пленэрныя працы, прывезеныя з самых розных куткоў свету. Дзіўныя па прыгажосці крымскія пейзажы, россыпы макаў на лузе, сціплыя васількі або раскошныя півоні. Зачароўваюць маляўнічыя куткі Чарнагорыі, Польшчы, Расіі...

— У дзяцінстве я часта чула апавяданні пра мастакоў, якія ходзяць з вёскі ў вёску і малююць для людзей дываны незвычайнай прыгажосці. Першай убачанай мною карцінай і быў такі дыван на сцяне ў суседкі: шалоўны жоўты леў ляжаў на беразе цёмна-сіняга возера, сярод кветак і пальмаў... Больш за ўсё на свеце мне захацелася тады падарожнічаць паўсюль і маляваць усё, што ўбачу. Мары спраўдзіліся: цяпер я магу дзяліцца ўбачанай прыгажосцю з аматарамі маіх карцін, — распавядае мастачка.

Ганна Гадзірава нарадзілася ў вёсцы Кулакова Віцебскай вобласці. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава, мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. Жыве і працуе ў Мінску. З 1998 года член Асацыяцыі свабодных мастакоў.

У сваёй творчасці Ганне ўдаецца спалучаць акварэльную празрыстасць і шчыльнасць жывапісу алеем. Яе карціны — перапляценне рамантызму і рэалізму: лёгкая смуга світанкаў, таямнічасць вячэрніх прыцемкаў, яркія фарбы лета і іней на галінах... Работы ў жанры лірычнага пейзажу здольныя зрабіць утульным любы дом.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Галоўнае — захаваць!

**Міжнародны навукова-практычны семінар краін СНД і Балтыі «Інтэграцыйны падыход у кіраванні аб’ектамі сусветнай спадчыны» прайшоў у штаб-кватэры СНД у Мінску.**

У якасці арганізатараў гэтага прадстаўнічага форуму выступілі беларускі Фонд «Культурная спадчына і сучаснасць» у супрацоўніцтве з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай камісіяй краіны па справах ЮНЕСКА і пры падтрымцы Бюро ЮНЕСКА ў Маскве. Удзельнікамі семінара сталі эксперты з Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Малдовы, Расіі, Украіны і Літвы.

У краінах СНД знаходзіцца больш як 50 аб’ектаў сусветнай спадчыны, якія патрабуюць увагі з боку дзяржаўных органаў і грамадства ў цэлым. Старажытныя архітэктурныя збудаванні, унесеныя ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, мусяць эфектыўна ахоўвацца і аптымальна выкарыстоўвацца, павінны быць захаваны адметнасці гэтых аб’ектаў. Семінар у Мінску мусіў стаць, з аднаго боку, пляцоўкай для абмену досведам паміж экспертамі ў гэтай галіне, з другога — першым крокам для стварэння прафесійнай сеткі экспертаў, якая ў далейшым можа дапамагаць пры вырашэнні самых складаных задач. Гэтую думку падкрэсліла начальнік аддзела навукова-метадычнага забеспячэння дзейнасці па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Інстытута культуры Беларусі Ала Сташкевіч. Міжнародныя сустрэчы, прысвечаныя тэме захавання Сусветнай спадчыны, ужо праводзіліся ў 2011 годзе ў Маскве і ў 2012-м — у Замкавым комплексе «Мір». Сёлетні форум у Мінску з выездам спецыялістаў у Нясвіжы стаў новым крокам у супрацоўніцтве.

Удзельнікам семінара быў і архітэктар Аугіс Гучас з Літвы, які падзяліўся з прысутнымі досведам рэстаўрацыі і рэканструкцыі элементаў забудовы гістарычнай часткі Вільнюса. Сёлета гэты архітэктурны комплекс адзначае 20-годдзе ўключэння ў спіс аб’ектаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Кіраўніцтва Вільнюса робіць акцэнт на захаванні старажытных будынкаў у належным стане, а таксама рэканструкцыі ўжо разбураных аб’ектаў на старажытных фундаментах. Такім чынам быў адноўлены Ніжні замак, які, дарэчы, карыстаецца папулярнасцю сярод жыхароў і гасцей горада (каля мільёна наведвальнікаў за год).

Шмат супярэчнасцей выклікала ва ўдзельнікаў семінара пытанне пра ролю кансервацыі ў захаванні і кіраванні аб’ектамі спадчыны. Дзмітрый Бубноўскі, навуковы кіраўнік пры правядзенні работ па рэстаўрацыі Замкавага комплексу «Мір», распавёў, што існуе два распаўсюджаныя міфы пра кансервацыю. Першы перадае думку: калі грамадства жыве небагата, то трэба кансерваваць аб’екты спадчыны для захавання іх будучым пакаленням. Сутнасць другога міфа палягае ў меркаванні, што кансервацыя — тэхналогія досыць простая і можа выкарыстоўвацца пры жаданні захаваць любыя аб’екты. Па меркаванні спецыяліста, сама з’ява кансервацыі ў любым выпадку небяспечная: і выкарыстаная методыка, і час, на які аб’ект мусіць захоўвацца нязменным, наадварот, садзейнічаюць разбурэнню старажытных каштоўнасцей. Адзінае аптымальнае выйсце — адмовіцца ад рамантызацыі руін і на некаторы час цалкам схаваць іх і ад вачэй наведвальнікаў, і ад уздзеяння атмасферных ападкаў, сонечнай радыяцыі, грыбкоў. Выдатны прыклад такой часовай кансервацыі з наступным аднаўленнем на старажытных руінах — Успенскі сабор і манастыр базыльян у Віцебску, што быў узарваны ў 1937 годзе, а ў 2000 — 2010 гадах адноўлены.

Сёння ў спіс аб’ектаў Сусветнай спадчыны ўваходзіць толькі два беларускія комплексы — Рэзідэнцыя Радзівілаў у Нясвіжы і Мірскі замак. Думаецца, наша культура яшчэ мае рэзерв для амбітных прапаноў на адрас ЮНЕСКА. Спецыялісты падкрэслілі, што кожны з аб’ектаў патрабуе асаблівай праграмы па рэстаўрацыі і далейшым выкарыстанні, пошуку адметнага рашэння, як увесці новыя рысы, пры гэтым захаваўшы старажытнасць. Магчыма, пры падтрымцы міжнароднай экспертнай супольнасці і дзякуючы старраннай працы айчынных спецыялістаў беларускае прадстаўніцтва ў спісе Сусветнай спадчыны будзе павялічана.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Актуальна*

# Традыцыі на сучасны лад

**Захаванне і развіццё традыцыйнай нацыянальнай мастацкай культуры — адна з галоўных задач сучаснага грамадства.**



*Выступае фальклорны калектыў «Мілавіца».*

Як дзеці і іх бацькі далучаюцца да родных вытокаў? Прадстаўнікі ўстаноў адукацыі, культуры, навуковай дзейнасці і сродкаў масавай інфармацыі — удзельнікі «круглага стала» «Патрыятычнае выхаванне асобы сродкамі традыцыйнага народнага мастацтва беларусаў» — змаглі ўбачыць на прыкладзе Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «Ветразь» г. Мінска.

Педагогі цэнтра рознымі сродкамі імкнуцца зацікавіць моладзь культурнай спадчынай і перадаць наступным пакаленням мінчукоў народныя традыцыі. Так нарадзілася ідэя стварыць серыю работ паводле беларускіх прымавак і прыказак. Наколькі паспяхова хлопчыкі і дзяўчынкі справіліся з гэтай задачай, госці ўстановы маглі ўбачыць у выставачнай зале, дзе былі прадстаўлены творы юных майстроў. Яшчэ адна серыя — «Беларуская казка» — арганічна спалучае народныя традыцыі і сучаснасць.



*«Прыгоды вожыка ў дзівосным лесе» — работа аб’яднання па інтарэсах «Майстрыхі» (кіраўнік Вера Ляўковіч-Худзінская).*

Ткацтва, вышыўка, кераміка, саломапляценне — гэтаму можна навучыцца ў «Ветразі». Пятнаццаць год існуе дзіцячае аб’яднанне "Чароўная саломінка" — лаўрэат і дыпламант шматлікіх гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў ды фестываляў.

— Саломка — гэта матэрыял, які вельмі шанавалі нашы продкі, — распавяла кіраўнік аб’яднання Алена Таляронак. — На занятках мы вывучаем звычаі беларусаў, знаёмім юных майстроў з традыцыйнай матэрыяльнай культурай. Радуе, што і праз гады нашы выпускнікі не забываюць рамяство. Нядаўна дзяўчына запрасіла на сваё вяселле, якое пройдзе паводле народных традыцый у Беларускім дзяржаўным музеі беларускай архітэктуры і побыту. Яна расказала, што спляла для гасцей шмат сувеніраў з саломы. Толькі лапцяў 25 пар!

Творчым калектывам-носьбітам аўтэнтычных традыцый на тэрыторыі Кастрычніцкага раёна сталіцы стаў фальклорны калектыў «Мілавіца», які амаль чвэрць стагоддзя плённа развіваецца ў «Ветразі» пад кіраўніцтвам Марыі Снітко. Свае заняткі юныя артысты ладзяць ва ўтульнай хатцы, дзе можна пабачыць стагадовыя ручнікі і іншыя старадаўнія рэчы.

— Вельмі важна, каб дзеці, якія прыходзяць на заняткі ў аб’яднанні па інтарэсах, ведалі родную мову, фарміравалі культуру беларускага маўлення і выказвання, з захапленнем вывучалі айчынную гісторыю, станавіліся патрыётамі сваёй Радзімы, — зазначыла дырэктар ЦДАДзіМ «Ветразь» Валянціна Румава падчас працы «круглага стала». — Засмучае, што сёння ў Кастрычніцкім раёне сталіцы няма ніводнай беларускамоўнай школы ці гімназіі. Тое ж самае з дзіцячымі садамі.

Як прагучала падчас пасяджэння, значна лепшая сітуацыя з захаваннем традыцый беларусаў у рэгіёнах, дзе на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў рэалізуюцца адпаведныя праекты. Педагог дадатковай адукацыі ЦДАДзіМ «Ветразь», навуковы і мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня» Мікола Козенка перакананы:



*«Мужычок з кулачок» — сумесная работа членаў гуртковў «Чароўная саломінка» і студыі выяўленчага мастацтва (кіраўнік Людміла Рагула).*

— Традыцыя — гэта яшчэ і шанаванне свайго роду, любоў да сям’і, дзе лічылася непрымальным не размаўляць на мове сваіх бацькоў, казаць пра іх дрэнна. Ужо шмат гадоў замежныя навукоўцы вывучаюць культуру славянскіх народаў на аснове беларускай, бо ў нас, нягледзячы на працэсы глабалізацыі, яшчэ захоўваецца жывая народная мова.

Моўную тэму прадоўжыў старшыня Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі «Беларускі фонд культуры», галоўны рэдактар «Краязнаўчай газеты» Уладзімір Гілеп: «Калі стваралася наша выданне, многія пыталіся: чаму яно будзе выдавацца на беларускай мове, маўляў, на рускай — большы тыраж. Я ўпэўнены: беларускае краязнаўства можа быць толькі на роднай мове. Тое ж самае датычыць рускіх і ўкраінскіх гістарычных даследаванняў».

Мастацкі кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь, фальклорнага ансамбля «Дударыкі» гімназіі № 14 г. Мінска Дзмітрый Ровенскі выказаў меркаванне, што ўстановам адукацыі і культуры нельга браць грошы за навучанне народным танцам, спевам.

— Пажадана, каб досвед па захаванні спадчыны, назапашаны ў цэнтры «Ветразь», быў пераняты іншымі ўстановамі сталіцы, — падкрэсліў прафесар кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат філалагічных навук Аляксей Рагуля.

Загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Таццяна Валодзіна зазначыла: «Галоўнае ў справе захавання мовы і традыцый — пачаць з сябе, размаўляць па-беларуску дома, на працы, каб дзеці і вучні маглі браць з вас прыклад».

Удзельнікі «круглага стала», мэтай якога было вызначэнне шляхоў патрыятычнага выхавання школьнікаў, навучэнскай і працоўнай моладзі, актывізацыя дзейнасці аматарскіх калектываў Кастрычніцкага раёна сталіцы па захаванні спадчыны беларусаў, прынялі рэзалюцыю, якая ўключае шмат слушных прапаноў. Сярод іх — азнаямленне дзяцей з традыцыйным народным мастацтвам яшчэ ў дашкольных установах адукацыі; аднаўленне ў раёне дзейнасці этнашколы; адкрыццё этнакласаў у школах і гімназіях; арганізацыя экспедыцый па рэгіёнах для вывучэння фальклору і этнаграфіі непасрэдна ад іх носьбітаў.

— Сённяшняе пакаленне маладых бацькоў больш прагматычнае, чым папярэдняе, — адзначыла настаўніца гімназіі № 14 г. Мінска Мая Ляўковіч. — Для многіх перш за ўсё важна, якая з гэтага карысць. Паняцце гістарычнай памяці — аснова, якая спрыяе фарміраванню грамадзяніна сваёй краіны, усебакова развітой асобы. Зразумела, усё адразу не атрымаецца. Да выбранай мэты давядзецца ісці маленькімі крокамі, карпатліва робячы сваю справу.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

# «Гняце мне думкі Крыма чар...»

**У адпачынку на паўднёвым беразе Крыма акрамя Ластаўчынага гнязда і Масандраўскага палаца варта наведаць мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю класікаў беларускай літаратуры. Апрача Максіма Багдановіча лёс прывёў на Крымскі паўвостраў і Янку Купалу.**



*Палац графіні Панінай у Гаспры.*

Ля падножжа гары Ай-Петры, дзе ў атачэнні высачэзных сцен ганарлівых кіпарысаў хаваецца трохкутнік старых крымататарскіх паселішчаў Карэіз — Місхор — Гаспра, захавалася нямала архітэктурных помнікаў. На краі стромы высіцца замак-эмблема Крыма «Ластаўчына гняздо». Не саступае па вытанчанасці архітэктурных форм і іншая перліна Гаспры — палац «Рамантычная Александрыя», вядомы таксама пад прозвішчамі сваіх колішніх уладальнікаў — графіні Панінай ды блізкага сябра Аляксандра II князя Галіцына. Невялікі «белы» пасёлак, а менавіта так перакладаецца Гаспра з грэчаскай мовы, знаходзіцца за нейкія дванаццаць кіламетраў ад Ялты.

Пазнавальным для турыстаў з Беларусі будзе той факт, што менавіта тут двойчы, у 1923 і 1929 гадах, калі гатычны палац быў перароблены ў санаторый для савецкіх навукоўцаў і дзеячаў культуры, спыняўся Янка Купала. Сведчаннем таму — памятная дошка на муры палаца, усталяваная трыццаць год таму.

Амаль за паўтары тысячы кіламетраў ад Бацькаўшчыны шануецца памяць пра нашага Песняра. Падчас рэабілітацыі пасля цяжкай хваробы класік беларускай літаратуры напісаў цыкл вершаў «Крым»:

*...А я — з далёкіх ніў пясняр —*
*Па Гаспры з кута ў кут*
*снуюся.*
*Гняце мне думкі Крыма чар,*
*Маркотна мне без Беларусі...*

Цяперашняя ж назва санаторыя — «Ясная паляна» — звязана з імем Льва Талстога, які жыў у палацы цягам 1901—1902 гадоў. Пісьменнік лячыўся і актыўна працаваў над аповесцю пра аварскага правадыра і военачальніка «Хаджы-Мурат». Да Талстога ў Гаспру наведваліся Горкі, Купрын, Чэхаў, Шаляпін. Сёння адзін з пакояў санаторыя аддадзены пад музей Льва Мікалаевіча. Пазней, у 1917 годзе, у палацы графіні Панінай быў і Уладзімір Набокаў — сям'я перабралася ў Крым пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, перад тым як канчаткова пакінуць Расію ў 1919-м. Таксама тут адпачывалі ў розныя часы паэт Восіп Мандэльштам ды кампазітар Дзмітрый Шастаковіч.

**Раман ЛАТУШКА,**
**фота аўтара**

*«Круглы стол»*

# Батлейкі свет магічны

**Мала хто ведае, што ў Смаргоні калісьці меркавалі адкрыць музей батлейкі. Нават памяшканне прызначылі, адпаведную дакументацыю падрыхтавалі, эксклюзіўную батлейку з саломкі сплялі і шпяньковыя лялькі зрабілі. Але ўнікальная ідэя рэалізавана не была.**

Менавіта пра гэты факт прыгадала падчас «круглага стала» «Роля мясцовай гісторыі, культуры і самабытнага батлеечнага мастацтва» былы галоўны захавальнік музейных фондаў Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея Надзея Маркава, якую запрасілі на пасяджэнне ў Залессе, дзе ў палацы-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ладзілася арганізацыйнае мерапрыемства для тых, хто зацікаўлены ў правядзенні вясной будучага года фэсту батлеечнікаў. Ініцыятарам выступілі актывісты мясцовага дабрачыннага фонду «Паўночныя Афіны М. К. Агінскага».

Як паведаміла дырэктар фонду Ала Шыцікава, у Гродзенскай вобласці толькі тры батлейкі: у Лідзе, Міры і Залессі. У Беларусі ўвогуле няшмат такіх унікальных тэатраў. Гэты жанр народнай творчасці быў найбольш распаўсюджаны на тэрыторыі Заходняй Еўропы, адкуль прыйшоў у Вялікае Княства Літоўскае і крочыў далей — на Усход. У сучаснай Польшчы батлейку называюць «шопка», а ў Расіі і Украіне яна вядома пад назвай "Вертеп".

Як папулярызацыя і далейшае развіццё батлейкі можа паспрыяць стварэнню спрыяльнага іміджу адпаведных тэрыторый, іх устойліваму развіццю і прыцягненню турыстаў? Пра гэта распачала гаворку Ала Шыцікава.

Сябра праўлення мясцовага дабрачыннага фонду «Паўночныя Афіны М. К. Агінскага» Галіна Мацюшэнка ў межах чарговага праекта прапанавала падтрымаць Залескую батлейку матэрыяльна і даць імпульс для яе далейшага ўдасканалення.

У Дзень тэатра была адобрана ідэя фестывалю батлеечнікаў. Прысутныя абмяркоўвалі канцэпцыю свята, майстар-класаў, стварэння музейнай экспазіцыі, прысвечанай гісторыі гэтага надзвычай містэрыяльнага тэатра. Кіраўнік народнага тэатра «Мірская батлейка» Канстанцін Петрыман падзяліўся сваімі напрацоўкамі, а таксама распавёў пра батлеечныя калядныя віншаванні. Спадабалася прысутным відэапрэзентацыя лідчан.

У кіраўніка Залескай батлейкі Таццяны Нісцюрынай шмат ідэй і сюжэтаў для новых спектакляў. Ёсць цікавая задума стварыць «скрынку» для батлейкі ў выглядзе будынка палаца Міхала Клеафаса Агінскага. Містэрыі будуць папулярызаваць творчасць кампазітара. Унёсак у агульную справу гатовы зрабіць сябры мясцовай школьнай бізнес-кампаніі, спецыялісты Дома рамёстваў і цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

Фестываль мяркуецца правесці ў сакавіку 2015 года. Думаецца, ён стане першым крокам на шляху стварэння яшчэ аднаго мясцовага брэнда — музея батлейкі на Смаргоншчыне.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**

# Маці прысвячаецца

Мастацкая выстаўка «О, Усяпетая Маці!» адкрылася ў мастацкай галерэі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у межах Дзён праваслаўнай культуры. Тут прадстаўлены жывапіс вядомых мастакоў Генадзя Сухамлінава, Юрыя Піскуна, Сяргея Давідовіча, Леаніда Гоманава, Аляксандра Зубовіча, Віктара Аліфанава, Алены Юр'евай, іконы Віктара Доўнара, Аляксея Гаявога, Святланы Семашкевіч.

Адкрыццё выстаўкі суправаджалася канцэртам з удзелам членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі і камернага хору "Класіка".

З прывітальным словам перад арганізатарамі і ўдзельнікамі выстаўкі, выкладчыкамі і студэнтамі акадэміі мастацтваў выступіў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Міхась Пазнякоў. Творца прачытаў некалькі вершаў, прысвечаных маці. Вершы на духоўную тэматыку дэкламавалі паэтэса і галоўны рэдактар духоўна-асветніцкай газеты «Воскресение» Алена Міхаленка, паэтэса і педагог Вольга Шпакевіч.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Аўра духмянага сну

Выстаўка «MONO» прафесійнага фатографа з Чэхіі Марціна Странкі, прадстаўленая Пасольствам Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, адкрылася ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля.

У выставачнай зале паказана 15 фатаграфій з апошняга цыкла Марціна Странкі «MONO», адабраных самім аўтарам. Яго ўнікальныя работы адлюстроўваюць запаветныя імгненні, якія размяжоўваюць сон і абуджэнне. Мастак адкрывае гледачу прастору, напоўненую раўнавагай і супакоем, водарам восені і зіхаценнем парушынак, якія лунаюць у паветры заходу.

У свае 29 гадоў М. Странка паспеў заваяваць прызнанне ў свеце. Яго працы шырока вядомыя па ўсёй Еўропе, у Азіі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы. Выстаўкі гэтага мастака праходзілі ў Нью-Ёрку, Лос-Анджэлесе, Токіа, Мілане, Лондане, Маямі, Парыжы, Вене і іншых гарадах. Фатаграфіі былі прадстаўлены ў вядомых галерэях *Getty Images Gallery, Saatchi Gallery* і *Robert Fontaine Gallery.*

Странка — аўтар вокладак кніг найбуйнейшых выдавецтваў Нью-Ёрка *Harper Collins Publisher* і *Sterling Publishing*, супрацоўнічае таксама з выдавецтвамі, музыкантамі і мастакамі па ўсім свеце.

За апошнія тры гады малады фатограф атрымаў больш як 40 вышэйшых міжнародных узнагарод. А прэмія *International Photo Awards* («Міжнародная фотапрэмія») прысуджалася яму два гады запар.

**Раіса МАРЧУК**

# Рарытэты пад апекай

Сумесны беларуска-польскі майстар-клас па кансервацыйнай прафілактыцы папяровага дакумента XX стагоддзя адбыўся ўчора ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Мерапрыемства прызначалася ў першую чаргу для работнікаў архіваў, бібліятэк і музеяў Беларусі, якія займаюцца праблемамі захавання фондаў папяровых дакументаў першай паловы XX стагоддзя: гэта архіўныя матэрыялы, кнігі, фотаздымкі, газеты, часопісы, лістоўкі.

Падчас майстар-класа, які праводзіла вядомы эксперт Ганна Чайка, кіраўнік Варшаўскай цэнтральнай лабараторыі кансервацыі архіўных дакументаў, прысутныя даведаліся пра метады распазнання пагроз, характэрных для дакументаў на папяровым носьбіце, якія былі створаны ў перыяд паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі. Прадстаўлены найноўшыя еўрапейскія дасягненні ў сферы захавання гэтых рарытэтаў.

**Аляксандр СЦЕФАНОВІЧ**

# Імпульс для творчасці




Двухтомны паэтычны праект «Праз восеньскі ажур» народнага клуба «Жывіца» выйшаў нядаўна ў выдавецтве Анастасіі Печанко. Запланаваць аб'ём калектыўнага зборніка шматлікай суполкі немагчыма. «Жывіца» вірue ў літаратурным працэсе, які дорыць не толькі асабістыя здзяйсненні, але і новых аўтараў і цікавыя творы.

Падзвіжніцкая дзейнасць Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці і шчырае служэнне слову дапамагае развівацца новым членам клуба, а гэта, безумоўна, дае магчымасць творчай рэалізацыі.

Імпульсам для паэтычнага праекта «Жывіцы» стаў конкурс на зададзеную тэму, які і даў назву калектыўнаму зборніку — «Праз восеньскі ажур». Творцам народнага клуба ўласцівыя паэтычнае бачанне рэчаіснасці, імкненне да самаўдасканалення. Удзельнікі клуба «Жывіца» актыўна прадстаўлены і ў інтэрнэт-рэсурсах, і ў афіцыйным друку.

**Ігар ГРАДОЎСКІ**

# Зала. Праектар. Кіно!



*Кадр з фільма Ільмара Раага «Я не вярнуся».*

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Па традыцы Генадзь Давыдзька разбіў сімвалічную талерку аб штатыў камеры, даўшы тым самым старт галоўнай кінападзеі года ў Беларусі. Ён адзначыў, што сабраць на «Лістападзе» калекцыю якасных фільмаў заўсёды няпроста, аднак арганізатарам у чарговы раз зрабіць гэта ўдалося.

## ЧАЛАВЕЧНАЯ КАРЦІНА

Фільмам адкрыцця XXI Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» стала кінастужка «Я не вярнуся» эстонскага рэжысёра Ільмара Раага. Карціна апавядае пра маладую выкладчыцу Ганну, якая становіцца ахвярай фальшывага абвінавачвання ў захоўванні наркотыкаў. Знешнасць дзіцяці дапамагае Ганне схавацца ў дзіцячым прыёмнікуразмеркавальніку, дзе яна знаёміцца з замкнёнай трынаццацігадовай Крысцінай. Тая марыць уцячы да сваёй бабулі ў Казахстан, і Ганна вырашае бегчы разам.

Па словах Ільмара Раага, здымкі кінакарціны сталі прыкладам «народнай дыпламатыі». Рэжысёр распавёў, што спачатку лічыў гэтую гісторыю «казкай пра каханне», але потым убачыў, як «мяняецца лёс фільма, як ён упісваецца ў ход падзей у рэальным свеце». Сапрадзюсар кінастужкі «Я не вярнуся» Сяргей Сяльянаў падкрэсліў, што гэта «вельмі чалавечная карціна»: «Такія маюць права на падтрымку. Людзі хочуць больш забаўляцца, і з кожным дзесяцігоддзем працэнт выспы «іншага» кіно звужаецца».

У склад асноўнага конкурсу ігравога кіно таксама ўвайшлі фільмы: «Кіно пра Аляксеева» (Расія), «Балада пра адабрэнне свету» (Эстонія), «Сляпыя спатканні» (Грузія), «Помнік Майклу Джэксану» (Сербія), «Кукурузны востраў» (Грузія), «Гаспадары» (Казахстан), «Дурань» (Расія), «Вішнёвы тытунь» (Эстонія), «Чорны вугаль, тонкі лёд» (Кітай), «Такія правілы» (Харватыя), «Племя» (Украіна).

Сёння, 14 лістапада, мінчане і госці сталіцы атрымаюць магчымасць паглядзець кінастужку закрыцця «Лістапада-2014» «Тры сэрцы» рэжысёра Бенуа Жака. Складаная драма распавядзе пра сапраўднае і вераломнае каханне. Увогуле, Францыя шырока прадстаўлена на мінскім форуме. Так, 7 лістапада кінапубліка мела магчымасць бачыць на цырымоніі адкрыцця Жыль Эгро — спявачку з Кан, якая атрымала сусветную вядомасць пасля выхаду ў 2007 годзе фільма Аліўе Даана «Жыццё ў ружовым колеры». У гэтай стужцы спявачка стала голасам Эдыт Піаф. Акрамя таго, на фестывалі былі паказаны дзве французскія міні-рэтраспектывы: «Сандрын Бонэр», «Кіно пра кіно». Адбыліся сустрэчы з французскімі рэжысёрамі: у Музеі гісторыі беларускага кіно прайшоў эксклюзіўны паказ дакументальнага фільма пра Брыжыт Бардо і творчая сустрэча з яго аўтарам Давідам Цебулем, а ў французскай медыятэцы адбыўся паказ фільма «Ідыёт» (паводле аднайменнага рамана Ф. Дастаеўскага) і творчая сустрэча з яго рэжысёрам П'ерам Леонам.



*Кадр з фільма Файта Хельмера «З ног на галаву».*

Члены міжнароднага журы конкурсу ігравога кіно «Маладосць на маршы» на гэты раз даюць ацэнку адзінаццаці прыкметным дэбютным работам (першая ці другая поўнаметражная праца ў рэжысёрскай фільмаграфіі) кінематаграфістаў свету. Вердыкт выносяць Шон Бэйкер (ЗША), Маркета Хадускава (Чэхія — Францыя) і Крысціна Флутур (Румынія). Фільмы рэжысёра Ш. Бэйкера ўдастоены многіх узнагарод у ЗША. Маркета Хадускава мае немалы досвед працы ў кііндустрыі, у прыватнасці штодзённым інфармацыйным рэсурсе *Film New Europe*. Крысціна Флутур — уладальніца прыза Канскага кінафестывалю «За лепшую жаночую ролю» ў фільме рэжысёра Крысціяна Мунджыу «За ўзгоркамі».

У праграме «Лістапада» — асноўны конкурс дакументальнага кіно. Сёлета яго прадстаўляюць карціны «Філосафы дарогі» (Арменія), «Туман» (Германія), «Правасуддзе ў Венгрыі» (Венгрыя), «Апошні лімузін» (Расія), «Мужчыны з мячамі» (Венгрыя), «Мяжа Нарвілішак» (Беларусь), «Каханне і праектаванне» (Фінляндыя), «Кроў» (Расія), «Жыццё амаль выдатнае» (Балгарыя), «Глыбокае каханне» (Польшча), «Чакаючы жніўня» (Бельгія).

Пазаконкурсная праграма дакументальнага кіно «Усе сцягі ў госці...» запрашае ў Беларусь прадстаўнікоў кінафестываляў з іншых краін. У гэтым годзе фэстам-госцем «Лістапада» стаў эстонскі Міжнародны фестываль дакументальнага і антрапалагічнага кіно ў Пярну.

У межах секцыі «Рарытэт» прайшоў паказ нямога польскага фільма «Пан Тадэвуш» пад акампанемент кампазітара і кінамана Марціна Пукалюка. Рэтраспектыву «Уяўнае каханне» прадставіў юны канадскі рэжысёр Ксаўе Далан, а галоўным фільмам пазаконкурснай секцыі «The Best» стала аскараносная дакументальная карціна Моргана Нэвіла «За два крокі ад славы».



*Кадр з фільма Аляксандры Каўфман «Быць мной, быць табой».*

## ЖАМЧУЖЫНА

У конкурсе дзіцячых і юнацкіх кінастужак «Лістападзік-2014» бралі ўдзел восем фільмаў, а таксама спецыяльныя паказы, у тым ліку, калекцыя новай анімацыі «Саюзмультфільм». Кінафестываль адкрывала японскарасійская анімацыйная карціна «Чабурашка» (рэжысёр Макота Накамура), на стварэнне якой пайшло шэсць гадоў. Аўтары ставілі перад сабой задачу максімальна захаваць дух аднаго з самых знакамітых савецкіх мультфільмаў. І па рэакцыі публікі можна было зразумець, што поспех дасягнуты: дзеці і дарослыя вельмі цёпла прынялі новы мультфільм з любімымі персанажамі. Стваральнікі хацелі захаваць падабенства герояў сучаснага «Чабурашкі» з героямі мультфільма амаль паўвекавой даўнасці. Менавіта таму лялькі і дэкарацыі аднаўляліся на аснове распрацовак савецкіх мультыплікатараў.

Закрыццё і ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі адбылося 11 лістапада ў кінатэатры «Піянер». Прыз глядацкіх сімпатый «Залата Лістападзіка-2014» атрымаў нямецкі фільм «З ног на галаву» (рэжысёр Файт Хельмер). Прыз «За лепшы фільм для дзяцей» прысуджаны стужцы «Жамчужына» (Іран, рэжысёр Сірус Хасантур). Лепшым фільмам для юнацтва названы «Прыродазнаўчыя навукі» (Аргенціна — Францыя, рэжысёр Мацьяс Лукезі). Узнагарода «За лепшую дзіцячую ролю» дасталася Маліцы Сіа Граф з кінастужкі «Місія» Еўрабачанне» (Данія). Прыз «За лепшую работу дарослага акцёра ў дзіцячым фільме» прысуджаны Лі Баа Цянь («Салавей», Кітай, рэжысёр Філіп Мюйль). Дыплом «За лепшую рэжысёрскую работу» ўручаны рэжысёру стужкі «Місія» Еўрабачанне» Марціну Міэ-Рэнару.

Сталі вядомы і ўладальнікі ўзнагарод конкурсу дакументальнага кіно нацыянальных кінашкол ММКФ «Лістапад-2014». Прыза «За лепшы фільм конкурсу маладога дакументальнага кіно» ўдастоена карціна «Быць мной, быць табой» (Італія, рэжысёр Аляксандра Каўфман). Дыплом «За неардынарнае апавядальнае і візуальнае рашэнне» прысуджаны Нацыянальнай кінашколе Даніі. Дыплом ад Гільдыі неігравога кіно Расіі «За ўдумлівы добрасардэчны партрэт, поўны горычы і гуманізму» ўручаны аўтару фільма «Ад панядзелка да панядзелка» Вахтангу Джаджанідзэ (Грузія).

Імёны ўладальнікаў галоўных узнагарод XXI Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» стануць вядомы на сённяшняй цырымоніі закрыцця. Як ніколі ўражвае жанравае багацце фільмаў. Нездарма на постары фэсту — цемра кіназалы, прамень праектара, дзясяткі розных рэжысёрскіх крэслаў, якія сімвалізуюць разнастайнасць аўтарскіх поглядаў у мастацтве кіно.

**Таццяна ШЧЭРБА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ».
Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца.
Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2285.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 13.11.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4624.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686